ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№12 (21) снежань 2012 год
ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ
Кошт свабодны



# Новы святар для Беларусі

**Ва ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Марыі Панны 8 снежня парафіяльны адпуст у пастаўскім касцёле быў упрыгожаны вялікай ласкай: адбылося святарскае пасвячэнне дыякана Мыслянцава Данілы, які каля года ўжо тут праслужыў.**

**Аліна Латыш**, *тэкст;* **Антон Чалей**, *фота*

Святая Імша была цэлебраваная Яго Эксцэленцыяй біскупам Уладзіславам Бліном. У ёй удзельнічалі таксама: ксёндз-дырэктар Пастаральнага цэнтра з Мінска, святары з Камаяў, Варапаева, Лучая, Празарокаў, Крулеўшчыны, Віцебска. Прыехалі са сваім святаром дзеці і парафіяне са Слабодкі (дыякан Даніла быў там на практыцы, як семінарыст на працягу сваёй вучобы).

Пастаўскі касцёл быў перапоўнены людзьмі. Вельмі ўзнёсла і прыгожа спяваў хор. Шмат радасных слёз пралілося ў час Святой Імшы: вернікі душой прыкіпелі да ксяндза Данілы, усім вельмі падабаліся яго шчырыя ўзнёслыя казанні на роднай мове. Таму словы біскупа пра тое, што ксёндз Даніла застаецца служыць у Паставах, успрынялі з вялікай радасцю.

Біскуп Уладзіслаў звярнуўся з пастырскім словам да ўсіх вернікаў, у якім гаварыў, што вопыт працы ў руху НАП (новае аблічча парафіі) разыходзіцца не толькі на Віцебскую дыяцэзію, але і на ўсю Беларусь. Ён выказаў надзею, што пастаўская парафія справіцца і з чарговым заданнем: будуць створаны суседскія групы для чытання і разважання Евангелля, будуць падрыхтаваны аніматары. "Прашу Бога, каб ваша праца і ўдзел прынеслі як мага большыя плады і бласлаўляю вас з усяго сэрца", - сказаў пастыр дыяцэзіі.

Са словамі падзякі да прысутных звярнуўся ксёндз Даніла: "Я падрыхтаваў прамову, але вельмі хвалююся, і таму буду гаварыць сэрцам. Шчыра дзякую біскупу Уладзіславу, які прыняў мяне як сына... Вельмі дзякую за айцоўскую апеку пробашчу парафіі ксяндзу Анджэю Возьняку... Я хачу служыць Беларусі..."

Шмат кветак было падарана новаму святару, шмат пажаданняў сказана. Вернікі выходзілі з касцёла вельмі ўзрушаныя, радасныя. Дзяліліся сваімі ўражаннямі: "Мяне захапіў яго вялікі патрыятычны ўздым, яго жаданне служыць Беларусі. Зноў я праводжу паралель: ксёндз Даніла – і наш вялікі паэт Максім Багдановіч". "Уражвае яго нялёгкі шлях да святарства... Буду маліцца, каб Пан Бог бласлаўляў яго..."

"Я першы раз на такой падзеі – святарскім пасвячэнні, і гэта мяне вельмі ўразіла, – гаварыла сакратар раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. – На працягу ўсяго часу, калі малады дыякан працаваў тут, ён не пакідаў нас раўнадушнымі. Самастойна вывучыў беларускую мову, хоць сам родам з Расіі, карыстаецца ёй і гэтым дае прыклад нам, беларусам, як трэба адносіцца да матчынай мовы".

Ксёндз Даніла некалькі месяцаў таму паступіў на факультэт філалогіі Літоўскага педагагічнага ўніверсітэта, каб атрымаць філалагічную адукацыю і далей служыць Беларусі – не толькі як святар, але і як перакладчык рэлігійных тэкстаў. Памолімся, каб усе яго жаданні споўніліся...



## Увага! Акцыя з прызамі!

**Дарагія сябры!**

Ужо пачалася падпіска на 1 паўгоддзе 2013 года. Заахвочваем вас падпісацца на "Каталіцкі Веснік"! Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні Белпошты.

У сувязі з падпісной кампаніяй "Веснік" праводзіць акцыю з прызамі. Дашліце нам дзве падпісныя квітанцыі і атрымайце прыз! Вы можаце падпісацца самі, а таксама падпісаць свайго сябра. Падарыце Добрую Вестку родным і блізкім!

Чакаем вашых лістоў з квітанцыямі аб падпісцы! Не забудзьцеся выразна ўказаць на канверце зваротны адрас. **Кошт "Весніка" ў новым паўгоддзі на 1 месяц – 2550 руб., на 3 месяцы – 7650 руб., на 6 месяцаў – 15300 руб.**

**Наш падпісны індэкс – 63783.**

Акцыя працягваецца да 31 снежня. У канверце павінна быць адна квітанцыя на 6 месяцаў, а другая – на любы тэрмін.

Кожны, хто дашле ў рэдакцыю ліст з дзвюма падпіснымі квітанцыямі, атрымае прыз!

**Заставайцеся з намі!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

**Ліда**
Футбольны чэмпіянат сярод святароў. Старонка 2.



**Наваполацк**
Пра Андрэйкі чытайце на старонцы 5.



**Ахрэмаўцы**
Пра юбілей у Ахрэмаўцах чытайце на стар. 6-7.



**Лучай**
Пра Мікалайкі ў Лучаі чытайце на стар. 10.



**Адвэнт ці канец свету?**
Чытайце матэрыялы на стар. 14.



## Слова ад рэдактара



**Дарагія сябры!**

Спяшаюся падзяліцца з вамі радасцю. "Каталіцкі Веснік" можна чытаць ужо і ў Інтэрнэце. Дзякуючы працы нашай каманды, аўтараў і асабліва праграміста Вячаслава Барысенкі нам удалося стварыць паўнавартасны медыяпартал. На сайце вы знойдзеце цікавыя відэаматэрыялы, аўдыяперадачы, фотаздымкі і рэпартажы з месца падзей. Адметнасцю электроннага "Весніка" з'яўляецца магчымасць у рэжыме рэальнага часу каментаваць артыкулы.

Дарагія сябры, чытайце нас, глядзіце і слухайце па адрасе: catholicnews.by. У раздзеле "Аўдыя" ёсць магчымасць паслухаць радыёперадачу з Віцебскага абласнога радыё "Слова да вернікаў". Яе вядзе кс. Валерый Марціноўскі. Таксама хутка ўжо з'явіцца раздзел, дзе вы зможаце пачуць казанні айца-езуіта Станіслава Памыкалы. Раздзел "Відэа" змяшчае ў сабе перадачу "Вытокі" тэлекампаніі "Віцебск", якая распавядае пра жыццё Віцебскай дыяцэзіі. Навінкай з'яўляецца праект "Веснік-відэа". Гэта разнастайныя відэаролікі нашай уласнай вытворчасці на рэлігійную тэматыку.

На сайце catholicnews.by мы змяшчаем анонсы найбліжэйшых падзей, а таксама аналітычныя артыкулы. Гэтую рубрыку вядуць святары, студэнты, а таксама можа далучыцца кожны, хто мае жаданне дзяліцца Добрай Весткай. Ужо распрацоўваецца блок інфармацыі, дзе ўсе ахвотныя змогуць змясціць свае просьбы аб малітве. У гэтых інтэнцыях будуць маліцца карыстальнікі партала па ўласным жаданні.

Партал catholicnews.by створаны, каб несці Евангелле праз сучасныя сродкі інфармацыі. Кожны з вас можа прыняць у гэтым удзел. Чым вы можаце нам дапамагчы? Пішыце пра свае навіны, думкі, каментуйце артыкулы, дыскутуйце. Нам важны кожны голас і кожнае меркаванне! Ваш камп'ютар, планшэт ці смартфон можа зрабіцца амбонам, адкуль людзі пачуюць словы Евангелля. Разам мы зможам больш расказаць людзям пра Хрыста і Касцёл.

Цікава, што партал catholicnews.by нарадзіўся менавіта ў той дзень, калі быў створаны профіль Папы Бэнэдыкта XVI у "Твітэры" – сетцы мікраблогаў – 3 снежня. Як трапна выказваецца вядомы італьянскі журналіст кс. Антоніа Спадара, Папа абраў менавіта сацыяльную сетку, таму што сёння занадта мала проста перадаваць рэлігійнае пасланне, ім неабходна дзяліцца.

Дарагія сябры, давайце мы таксама будзем дзяліцца Евангеллем – гэтым жывым словам Бога. На адкрытай пляцоўцы, якім ёсць партал catholicnews.by, знойдзецца месца для кожнага.

З нагоды блізкага Свята Божага Нараджэння жадаю вам радаснага настрою, згоды ў сем'ях і шчырага сяброўства. Няхай Новы 2013 год будзе шчаслівым для ўсіх вас, дарагія сябры. Хай нованароджаны Езус блаславіць усё вашае жыццё.

***Кс. Віктар Місевіч,***
*галоўны рэдактар "Каталіцкага Весніка"*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага благаслаўлення!

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Леанід Грыбач** (г. Гомель), **Яніна Вільчынская** (г.п. Падсвілле, Глыбоцкі р-н), **Ірэна Паўловіч** (г.п. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Вольга Парневіч** (г.п. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Вераніка Абуховіч** (в. Дунілавічы, Пастаўскі р-н), **Ірына Курыловіч** (г. Мёры), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Ядвіга і Тадэвуш Урбан** (в. Пажаркі, Ваўкавыскі р-н, Гродзенская вобл.), **Аліцыя Трафімовіч** (г. Паставы), **Генавэфа Бартко** (в. Абруб, Глыбоцкі р-н), **Л.І. Арлова** (г. Дуброўна), **Юрый Парфяновіч** (г. Браслаў).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

**Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку!** Раскажыце сваім родным і знаёмым пра "Каталіцкі Веснік". Заахвоцьце іх падпісацца. Ужо распачалася падпісная кампанія на першае паўгоддзе 2013 года! **Аформіць падпіску можна ў любым аддзяленні Белпошты. Наш індэкс: 63783.**

Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.

**Няхай Вас блаславіць Бог, а святыя апосталы заступаюцца за Вас у кожную хвіліну жыцця!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*




# Чэмпіянат у духу любові

**На адзін дзень Лідчына стала спартовым цэнтрам. Менавіта сюды 26 лістапада з'ехаліся каманды ксяндзоў з усіх дыяцэзій, каб прыняць удзел у першым чэмпіянаце па міні-футболе сярод каталіцкіх святароў.**

■ **Вераніка Велігор**, *тэкст;*
**кс. Уладыслаў Сурвіла**, *фота*

А гуламу спаборніцтвах удзельнічала шэсць каманд. Калектывы Гарадзенскай, Віцебскай, Пінскай, Менска-Магілёўскай архідыяцэзій змагаліся за першае месца і магчымасць прадстаўляць Беларусь на чэмпіянаце свету сярод святароў. У той самы час на пытанне "Хто лепшы?" спрабавалі адшукаць адказ і зборныя каманды з Гродзенскай і Пінскай духоўных семінарыяў.

Кожная справа павінна пачынацца з малітвы, таму і чэмпіянат пачаўся з Імшы, што была адпраўлена ў Лідскім фарным касцёле Мітрапалітам Менска-Магілёўскім арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам. Падчас гаміліі арцыпастыр правёў паралель паміж футболам і хрысціянскім жыццём, адзначыўшы, наколькі важна разумець сэнс слова "каманда".

Негледзячы на працоўны дзень, трыбуны былі запоўненыя. Тым жа, каму не хапіла месца, давялося цясніцца на верхняй пляцоўцы. Урачыстае адкрыццё. Лёсаванне. Размінка...

Чэмпіянат адкрыла сустрэча каманд Гарадзенскай і Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Разынкай мініфутбола з'яўляецца кароткі час – два таймы па сем хвілін. Тут патрэбны максімум атак на браму саперніка. Так і атрымалася! Ажно дух займала!

Гулец пад нумарам "адзін" каманды "Менск", арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, на пачатку першага тайму не аднойчы спрабаваў прабіць браму гарадзенцаў, якую так старанна абараняў кс. Ян Рушніцкі. Першы тайм "Менск" пачаў весці з лікам 1:0, тым самым прымусіў моцна хвалявацца ўвесь склад каманды з Гародні... Але ў гарадзенцаў пасля перапынку атрымалася выраўняць лік! Вынік – 1:1, нічыя.

Змаганне паміж Гародняй і Менскам склала асноўную інтрыгу сустрэчы. Далей ужо футбалісты з горада над Нёманам змаглі забіць сваім сапернікам 9 галоў. Больш за ўсіх адзначыўся кс. Павел Салабуда, які і забіў большую частку з іх.

Наступнымі на поле выйшлі зборныя каманды з Віцебска ды Пінска. Заўзятараў на трыбунах паменела, але дарма: той, хто сачыў, мог заўважыць, як "Пінск" з першых хвілінаў не даваў перапынку галкіперу віцебскай каманды. Агульны лік пасля двух таймаў – 0:0... Зноўку нічыя.

Гульні паміж менскай, пінскай і віцебскай камандамі асаблівымі жарсцямі не адзначыліся. Вынікі сустрэчаў наступныя: Віцебск – Менск 1:0, Пінск – Менск 0:1.

Сіламі памерацца прыехалі і семінарысты Гарадзенскай ды Пінскай дыяцэзіяў. Калі ад святароў заўзятары чакалі вынікаў, то ад маладых семінарыстаў трыбуны патрабавалі ...акурат гульні! Той, хто дачакаўся, быў узнагароджаны букетам станоўчых эмоцый ды перажыванняў – "за сваіх", канечне ж.

Фактычна з першых хвілінаў пінскія семінарысты, загнаўшы ў браму гарадзенцаў два мячы, прымусілі гульцоў з-над Нёмана перагледзець тактыку гульні. На трыбунах – шал. Аднак гарадзенцы ўсё ж здолелі зраўняць і ўтрымаць лік да канца першага тайму.

Другі тайм быў не менш цікавым за першы. Мноства галявых момантаў, маланкавыя атакі, напружанасць на трыбунах... Канец тайму – 3:3, і суддзя прызначае дадатковыя пенальці, каб вызначыць лепшую з двух заходнебеларускіх камандаў.

Першымі б'юць пінчукі і ...трапляюць! Гарадзенцы адказваюць "узаемнасцю" – таксама гол! Другая серыя пенальці прайшла па такім жа сцэнары. Трэці пенальці, вырашальны... Трыбуны замерлі, каманды дыхаюць праз раз. Б'е пінскі семінарыст... Але гарадзенскі брамнік адбівае мяч! Апошні ўдар належыў гарадзенцу кл. Юру Ясевічу, які прабіў-такі браму праціўніка, чым здабыў перамогу камандзе Гарадзенскай духоўнай семінарыі – 6:5.

Месцы між камандамі размеркаваліся наступным чынам: 1-е заняла Гарадзенская дыяцэзія, 2-е месца дасталося Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі, 3-е – Віцебскай дыяцэзіі, 4-е – Пінскай.

Вывады з першага чэмпіянату кожны зробіць сам для сябе: хтосьці будзе больш трэніравацца, хтосьці сыйдзе, хтосьці і надалей будзе прасоўваць ідэю хрысціянскіх спаборніцтваў і ў парафіі адкрые сваю школу футбола. А нехта, магчыма, у фэйсбуку ці на дварэ працягне спрачацца, маўляў, месца святара ў святыні, а не ў кедах на полі... Але нельга не пагадзіцца, што акурат такія акцыі служаць справе развіцця і прасоўвання аўтарытэту Каталіцкага Касцёла ў Беларусі.

# Падарожжа ў Клецк



**Парафію Святой Тройцы ў Клецку 17 - 18 лістапада 2012 г. наведалі сёстры-францішканкі Сям'і Марыі з Глыбокага і Варапаева, каб разам з мясцовымі вернікамі ўшанаваць святога арцыбіскупа Зыгмунта Шчэнснага Фелінскага, а таксама маліцца праз яго заступніцтва.**

**с. Марына Брылёнак**

Святы Зыгмунт Шчэнсны Фелінскі з'яўляецца заснавальнікам кангрэгацыі сясцёр-францішканак Сям'і Марыі. Ён нарадзіўся 1 лістапада 1822г. у Ваютыне на Валыні, цяперашняя тэрыторыя Украіны. Але яго маці Ева з сям'і Вендорфаў нарадзілася ў в. Узнога пад Клецкам, у Беларусі. Сам св. Зыгмунт Шчэнсны Фелінскі часта наведваў святыню ў Клецку, калі ў дзіцячыя і студэнцкія гады прыязджаў да сваіх родных у в. Галынку (каля Клецка). Там і да сённяшняга дня захаваліся падмурак сядзібы і рэшткі капліцы, пабудаванай Вендорфамі ў 1809 г.

Менавіта гэтыя памятныя і вельмі важныя мясціны наведалі сёстры ў суправаджэнні Чаславы Вячаславаўны Князевай, якая сама з'яўляецца гісторыкам і шмат гадоў прысвяціла вывучэнню роду Вендорфаў. Таксама сёстры пабывалі на могілках у в. Ясянец (Ганцавіцкі раён), дзе знаходзіцца пахавальная капліца роду Вендорфаў, з якога паходзіць святы, чалавек моцнай веры, які пасля сябе пакінуў вялікую духоўную спадчыну. А прыклад веры і бязмежнага даверу Божаму Провіду ён атрымаў ад сваёй сям'і, а перадусім – ад маці. Кожны ведае, што беларуская зямля багатая славутымі людзьмі, пра якіх мы чытаем у літаратуры. Але яшчэ больш ёсць тых, пра каго мы не чыталі, але іх жыццё было высакародным і прынесла найвялікшы плён, як зерне, кінутае ў добрую глебу.

У гэтых цудоўных мясцінах сёстры пабывалі дзякуючы кс. Адаму Самсэлю MSF – пробашчу парафіі Святой Тройцы ў Клецку, які запрасіў іх, каб разам маліцца і распавесці аб сваёй працы ў Беларусі і асобе св. Заснавальніка. Падчас Эўхарыстыі быў прачытаны рэферат на тэму "Вера ў жыцці св. Арцб. Фелінскага". Пасля сёстры паказалі прэзентацыю кангрэгацыі францішканак Сям'і Марыі і яе дзейнасці. Прагучала шмат гісторый, звязаных з постаццю святога, але найважнейшымі былі супольная Эўхарыстыя і малітва, якую ўсе разам узносілі да Бога праз заступніцтва св. Зыгмунта Шчэнснага Фелінскага. У сэрцы кожнага было шмат просьбаў і была вялікая вера ў моц Божую і апеку святога над парафіяй.

На заканчэнне ўсе прысутныя ў святыні ўшанавалі рэліквіі св. Арцб. Фелінскага, якія зусім нядаўна былі прывезеныя з Варшавы.



# Докшыцкі "Аазіс"

**Чарговы раз "Аазіс" прыняў моладзь з розных куткоў Беларусі.**

**Юля Дубіна**

Сустрэча адбывалася з 3 па 7 лістапада. Гэтай восенню ў докшыцкі кляштар капуцынаў і жаночы кляштар сясцёр-адаратарак крыві Хрыста з'ехалася каля 70 падлеткаў ва ўзросце 14-18 гадоў.

Тэмай рэкалекцый былі святыя сакраманты. Канферэнцыі дапамаглі моладзі ўзгадаць атрыманыя веды на занятках па катэхізісе і яшчэ раз глыбей зразумець сэнс сакрамантаў.

Акрамя канферэнцый, маладыя людзі прымалі ўдзел у супольных малітвах, падчас якіх маглі разам праслвіць Бога і ўмацаваць сваю веру. А вясёлыя вечары дазволілі бліжэй пазнаёміцца і добра правесці час разам.

Усе ўдзельнікі з Богам і радасцю ў сэрцы вярнуліся дамоў, ужо чакаючы наступнага "Аазісу".




Докшыцы

# Сустрэча святароў

**У касцёл Святой Тройцы ў Докшыцах 13 лістапада з усіх куткоў Віцебскай дыяцэзіі прыехалі на чарговую сустрэчу святары і законныя сёстры. Спатканне распачалося малітвай перад Найсвяцейшым Сакрамантам.**

**с. Святлана Грэйць**, *тэкст і фота*



Непасрэдна перад Святой Імшой некалькі святароў, якія выконваюць функцыі ў Біскупскім Судзе, склалі перад біскупам Уладзіславам прысягу. Сярод працаўнікоў Суда ёсць таксама кансэкраваная асоба – с. Ганна Дзятлік ASC. Яна выконвае функцыю натарыуса. Суддзямі ў судзе з'яўляюцца кс. Віталь Галец, кс. Мечыслаў Янчышын, кс. Валерый Орсік, кс. Алег Півавар, кс. Павел Самсонаў. Абавязкі Абаронцы сужэнскага саюзу ўскладзеныя на кс. Ігната Санюту. Кіруе судом Віцебскай дыяцэзіі кс. Віктар Місевіч.

На пачатку Св. Імшы святары, якія цэлебравалі Літургію, разам з усімі сабранымі ўшанавалі абраз Св. Тройцы.

Св. Імшу цэлебраваў біскуп Уладзіслаў Блін. У Літургіі прынялі ўдзел шаноўныя госці – польскія консулы. Падчас Св. Імшы гучалі прыгожыя спевы ў выкананні парафіяльнага хору, кіраўніком якога з'яўляецца Вераніка Раманенкава.

Словы гаміліі, тэма якой "Святарства ў святле веры" прамовіў кс. Валерый Марціноўскі. "Святар – той, хто прапаведвае Евангелле, той, хто вучыць не сваёй мудрасці, але Слову Божаму, той, хто першы навяртаецца", – кажа ў сваёй гаміліі кс. Валерый. Таксама святар заахвочвае, каб імкнуліся ў сваім жыцці працягнуць ахвяру Хрыста. Тады і сэрца будзе адкрытае для іншых.

Напрыканцы Св. Імшы біскуп Уладзіслаў падзякаваў найперш Пану Богу за магчымасць такіх сустрэч, айцу віцэ-правінцыялу Андрэю Жылевічу і пробашчу айцоў капуцынаў Юрыю Катовічу, якія прымалі ў сваёй парафіі святароў і сясцёр законных Віцебскай дыцэзіі.

Яшчэ на пачатку лістапада ва ўсіх касцёлах маліліся за памерлых, таму са словамі падзякі святарам за клопат аб добраўпарадкаванні могілак, на якіх пахаваныя сярод іншых і польскія жаўнеры, звярнуўся і польскі консул.

Пасля супольнай малітвы, Св. Імшы а. Андрэй Жылевіч віцэ-правінцыял запрасіў прысутных на абед.

# Ля Матулі




*О, Міласэрная Матуля,*
*Пусці ў свой Вастрабрамскі Храм.*
*Мы да Цябе ўсе беды тулім,*
*Ты ж дапамогу дорыш нам.*

*Заўжды была ў вялікай хвале.*
*Высока ўзнёс Пан Бог Цябе.*
*А мы нязменна называлі*
*Матуляй літасці ў журбе.*

*Праз дзверы Брамы Ты міжволі*
*Глядзіш на наш штодзённы тлум.*
*Ты знаеш нашы смуткі, болі*
*І глыбіню таемных дум.*

*Хто не шукаў Твайго ратунку?!*
*Ў Цябе хто ласкі не прасіў?!*
*Будзь нашай добрай Апякункай,*
*Каб злы нас дух не спакусіў.*

*Твой вобраз зноў перад вачыма,*
*З Табой мы ў радасці, у журбе.*
*І не спужаемся бяды мы,*
*Пакуль хінёмся да Цябе!*

*Мар'ян Дукса*

**Маці Міласэрнасці з Вострай Брамы ў Вільні ўшаноўваецца ўсімі хрысціянамі як заступніца Беларусі і Літвы, асабліва даўняй Віленшчыны. На землях старой Віленшчыны яе абраз знаходзіцца ў шматлікіх святынях і дамах вернікаў, як каталіцкіх, так і праваслаўных.**

**кс. Аляксей Юркайць**

Жыхары парафіі і вернікі з наваколля асаблівым чынам ушаноўваюць Божую Маці з Вострай Брамы, і ружанцовая малітва каля капліцаў у кастрычніку была добрай духоўнай практыкай і натхненнем для перажывання штогадовых "Дзён апекі Маці Божай".

Як у Вільні, так і ў Мосары – беларускай Вострай Браме – у капліцы Маці Міласэрнасці штогод праходзяць дні "Апекі" Маці Божай і малітва навэнны.

У гэтым годзе дні "Апекі" адбываліся з 7 па 16 лістапада пад дэвізам "Вера і Міласэрнасць – дар і заданне".

Штодзённа раніцай вернікі дзякавалі Маці Вастрабрамскай за шматвяковую апеку жыхароў нашых земляў у часы войнаў, эпідэмій, хваробаў і іншых навалаў, спяваючы Гадзінкі. А пасля абеду, у гадзіну міласэрнасці, маліліся на ружанцы каля капліцаў, прамаўлялі малітвы навэнны і літанію да Маці Божай Міласэрнасці. А ў 17 гадзін перад абразом Божай Маці збіраліся на Святую Літургію з навукай на тэмы веры і міласэрнасці.

Пасля заканчэння навэнны, 16 лістапада, адбыліся ўрачыстасці ў гонар Маці Міласэрнасці, падчас якіх айцец Вальдэмар Куява, францішканін з Удзела, у гаміліі нагадаў пра веру Марыі як узор для нас і ўзгадаў гістарычныя падзеі, звязаныя з апекай Божай Маці нашага народа.

Святкаванне і ўшанаванне "Апекі" Маці Божай працягвалася і ў суботу, 17 лістапада, на ўрачыстай Святой Імшы пры адкрытым акне капліцы. Маці Міласэрнасці сабрала нас на ўрачыстую Еўхарыстыю – падзяку за Яе нябесную апеку.

Прыгожае восеньскае надвор'е натхняла прысутных на малітву. І падчас літургіі ксёндз Аляксандр Грыцкевіч са славутай і старажытнай Дзісны звярнуў увагу на мацярынскі клопат Багародзіцы Марыі ў нашым штодзённым жыцці, у звычайных, простых справах і падзяліўся сваім досведам адчування Яе прысутнасці. Пасля прыняцця бласлаўлення вернікі падыходзілі да святога абраза ў капліцы, каб пакланіцца і ўшанаваць Багародзіцу.

Абраз Маці Божай Вастрабрамскай знаходзіцца ў капліцы са старажытнага разбуранага барэйкаўскага касцёла і вельмі шанаваны вернікамі. Капліца была пабудаваная па ініцыятыве памерлага ксяндза-пралата Юзаса Булькі ў 1996 годзе.

У гэтым годзе, дзякуючы ахвяраванням людзей і дапамозе мецэнатаў, як у касцёле, так і ў капліцы Вастрабрамскай быў зроблены звонку касметычны рамонт, хоць яшчэ, на жаль, пакуль няма святла. Таму асабліва падчас "Дзён апекі" Маці Божай Вастрабрамскай складаем падзяку да стопаў Маці Нябеснай і ўзносім малітву за нашых ахвярадаўцаў і мецэнатаў, за ўсе Божыя ласкі і апеку і просім у Год Веры ва ўсіх нашых інтэнцыях Божую Маці: бараніць нашыя сем'і, моладзь і дзяцей ад спакусаў, якія нясе секулярызаваны свет, бараніць наш беларускі народ ад знішчэння грахом і заганамі, асабліва аб дары цвярозасці.

Кожны чалавек, кожная сям'я мае за што асабіста падзякаваць Богу праз Марыю: за дзяцей, сям'ю, працу, хлеб штодзённы, Божыя ласкі ў жыцці... Усе прысутныя свае малітвы падзякі і ўласныя інтэнцыі-просьбы Богу і Маці Міласэрнасці з глыбіні сэрцаў узносілі на Неба.



**На здымку:** Абраз Маці Божай Вастрабрамскай без срэбнага пакрыцця.

З Божым бласлаўленнем і на наступны год яшчэ больш годна і прыгожа ўшануем Міласэрную Маці, якая ўсіх чакае ў Мосары і ахінае Сваёй апекай!!

# Маці…

**Кожны дзень мы сустракаемся з гэтым словам: для нас яно стала побытавым і нават непрыкметным. Часта мы пагарджаем гэтым словам і забываем яго сэнс. Але трэба як мага хутчэй спыніцца, адкінуць усе штодзённыя турботы і задумацца: кім жа на самай справе з'яўляецца для нас маці?**

**Бажэна Цялега**

Для некага яна настаўніца па жыцці, для некага – сябра, таварыш, а для некага – проста мама, якая ў будзённых клопатах займае далёка не першае месца.

На працягу свайго яшчэ кароткага жыццёвага шляху я не раз задавалася пытаннем: а кім жа для мяне з'яўляецца мама? Заўсёды знаходзіла шмат адказаў, але ўсё ж сярод іх не было таго, які б змог цалкам увасобіць у сабе вобраз маёй маці. І вось аднойчы, прамаўляючы словы завучанай з ранняга дзяцінства малітвы "Да Анёла-апекуна", у маім сэрцы паўстала выява матулі. Яна, менавіта яна ўвесь час побач і заўжды гатовая аддаць усё, каб толькі мне было добра. Яна, менавіта яна падзяляе ўсе хвіліны майго жыцця – і радасці, і смутку. Толькі яна гатовая паспяшыць на дапамогу ноччу або днём, зусім не звяртаючы ўвагі на свае ўласныя справы ці клопаты. Маці заўсёды хоча прайсці ўсе цяжкасці замест нас.

Прыняўшы ўсё гэта ў сваё сэрца, я пачала разумець па-сапраўднаму, наколькі бяскрайняя любоў матулі да ўсіх нас! Як важна адчуць тое, што маці побач і што ўзамен за сваю пяшчоту і адданасць яна нічога не патрабуе... Пакуль ёсць на свеце родная мама, я ніколі не буду ў адзіноце ці пакінутай, бо частка яе сэрца назаўсёды закладзена ў мой лёс і маё жыццё.

# Мама

Тысячу разоў магу паўтарыць, што маці – мой анёл-ахоўнік, бо толькі Бог мог уліць у яе душу столькі цярпення, любові, міласэрнасці і дабрыні. Цяжка ўявіць, як яна змагла перанесці ўсе цяжкасці свайго складанага жыцця і застацца такой моцнай духам, і захаваць у сабе такое шчырае сэрца! Жыццё маёй маці з'яўляецца для мяне эталонам і самым дасканалым урокам. Ніколі не ведаючы адпачынку, яна працавала і працуе, тым самым прывіваючы нам, сваім дзецям, любоў да працы, зямлі і сваёй Радзімы. Яна заўсёды імкнецца данесці ў нашыя сэрцы веру ў Бога і ў тое, што ніколі ў жыцці не пройдзе бясследна...

Любоў маці з'яўляецца самым вялікім скарбам у маім жыцці. Менавіта таму я ведаю, што ніколі не буду адна, бо за маёй спінай заўсёды і ўсюды будзе анёл-ахоўнік – **МАЦІ...**



Бягомль

# ХРЫСТУС-ВАЛАДАР

**У апошнюю нядзелю літургічнага года Каталіцкі Касцёл адзначае ўрачыстасць Хрыста – Валадара Сусвету.**

**Ірына Грэйць**, *тэкст і фота*

З гэтай нагоды 25 лістапада ў бягомльскай парафіі Хрыста-Валадара адбылося свята. На яго прыбылі парафіяне разам з вернікамі, духавенствам і сёстрамі законнымі з суседніх парафій, каб абвяшчаць Яго ўладу. Наведаў святыню таксама старшыня пасялковага Савета Мікалай Аляксеевіч Трахінін.

Напачатку адбылася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. Святую Імшу ўзначаліў а. Марэк Пасют з Докшыц. Разам з сястрой Таццянай Данч прысутныя ўпрыгожвалі набажэнства спевам.

З вуснаў маленькай дзяўчынкі шчыра гучалі словы з чытання прарока Даніэля: "І дадзена Яму была ўлада і гонар, і валадарства. І ўсе народы, плямёны і мовы служылі Яму. Улада Ягоная – вечная ўлада, якая не адымецца. І валадарства Ягонае не будзе знішчана".



У гаміліі кс. Раман Мурзіч разважаў разам з прысутнымі аб Божым Валадарстве на зямлі.

Пасля Святой Імшы адбыўся канцэрт беларускага паэта і выканаўца ўласных песень Алеся Камоцкага, які расказаў пра свой праект "Вяровіца". Праграма яго складзена з вершаў Рыгора Барадуліна, запісаная пры ўдзеле аранжыроўшчыка і піяніста Аляксандра Віслаўскага. Праект змяшчае таксама цікавыя фотаздымкі рэлігійнай тэматыкі амерыканскага дыпламата і фатографа Джона Кунстадтэра. Алесь Камоцкі прывёз таксама падарункі – кнігі для святыні, якія перадаў Рыгор Барадулін з уласным аўтографам. Прысутныя з захапленнем слухалі спевы барда пад гітару.

Гэтая ўрачыстая Святая Імша прынесла ўсведамленне таго, што Езус Хрыстус з'яўляецца адзіным Валадаром як кожнага чалавека, кожнай душы, так і цэлага Сусвету.



Мёры

# Радасць у клубе

**Пры Мёрскай парафіі Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі больш за пяць гадоў дзейнічае клуб "Карытас-Батэль". Яго наведваюць маладыя асобы з абмежаванымі магчымасцямі.**

**Вольга Вішнеўская**



Сумаваць ім тут не даводзіцца: пад кіраўніцтвам катэхеткі Ганны Вайсковіч яны майструюць розныя вырабы з гіпсу, паперы, прыроднага матэрыялу і інш. Удзельнічаюць яны і ў розных святах і мерапрыемствах. Напрыклад, ездзілі да сяброў у Віцебск і Глыбокае, дзе нас гасцінна сустракалі і частавалі, знайшлося часу і для забаў. Гаспадарам за праведзеныя гадзіны ўдзельнікі клуба вельмі ўдзячныя.

Мёршчына вылучаецца сваёй прыгажосцю і непаўторнасцю. Шмат тут прыгожых прыродных мясцін, помнікаў і храмаў. З экскурсіяй наведаліся ў вёску Новы Пагост, пазнаёміліся з яе гісторыяй, а таксама з гісторыяй мясцовага касцёла і царквы. У падарунак да дня нараджэння аднаго з удзельніц клуба арганізавалі экскурсію ў Браслаў, дзе таксама атрымалі шмат станоўчых эмоцый, а таксама пачаставаліся ў кавярні. Цікавыя і пазнавальныя вандроўкі будуць працягвацца.

# "Глядзелкі", "бельгійка" і Адвэнт

**Паліна Ткачэнка**, *тэкст;* **с. Лаўра**, *фота*

Вось і настаў доўгачаканы час Адвэнту – час радаснага чакання прыходу Хрыста. Але зараз я хачу распавесці не пра пачатак, а менавіта пра заканчэнне звычайнага перыяду. Парафія Найсвяцейшага сэрца Езуса ў Наваполацку можа пахваліцца тым, што ў нас прайшлі Андрэйкі – апошні вечар перад пачаткам Адвэнту. Назва ад імя св. Андрэя – успамін якога прыпадае на 30 снежня.

Не ведаю, як гэта адбываецца ў іншых парафіях, але ў нас свята прайшло наступным чынам. Спачатку была адарацыя, якую мы, моладзь, звычайна самі і праводзім, у капліцы сясцёр у іх кляштары. Найчасцей мы разважаем надурыўкамі Святога Пісання, якія рыхтуюць нам нашыя сёстры, спяваем, размаўляем з Езусам у Найсвяцейшым Сакраманце і старанна молімся. Такая медытацыя можа цягнуцца каля сарака хвілінаў, а потым традыцыйна адбываецца катэхеза.

Сёстры-Змёртвыхпаўстанкі падрыхтавалі для нас цэлую праграму. Спачатку было знаёмства, бо да нас прыйшлі новыя хлопцы і дзяўчаты. Збоку, напэўна, было вельмі смешна назіраць, але кожны з нас меў кавалак туалетнай паперы, скручваючы якую мы павінны былі паспець расказаць пра сябе як мага больш.

Потым былі ўлюбёныя маладзевыя танцы: "бельгійка" і так званыя "кеды", але навучыліся і новым таксама. Пазней усе пайшлі на капучына (наша старая наваполацкая традыцыя) з печывам і вясёлай віктарынай. Нарэшце зноў пабеглі танчыць. А на заканчэнне засталося самае цікавенькае: мы правялі конкурс на найлепшую мужчынскую прычоску!

Нашы дзяўчаты павінны былі заплесці хлопцам як мага больш хвосцікоў. Насмяяліся таксама падчас гульні ў "глядзелкі". Адным словам, было весела.

Наш вечар закончыўся супольнай малітвай і ўзаемабласлаўленнем, калі мы рабілі знакі крыжа на ілбах адно аднаго. Было гэта вельмі сімвалічна і прыгожа.

Вось так весела ў нас і прайшоў канец літургічнага года.





*Добрая Вестка ў тваім доме!* Каталіцкі ВЕСНІК №12(21) снежань 2012 г.

# ПЕРШЫ ЮБІЛЕЙ

**У пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, калі адбыліся пэўныя змены ў грамадстве, калі перасталі пераследаваць вернікаў, пачала працаваць капліца на могілках у вёсцы Ахрэмаўцы Браслаўскага раёна. Прыязджаў сюды ксёндз Стэфан Пракурат з Браслава. Людзей усё больш прыходзіла маліцца, і капліца не магла ўмяшчаць усіх ахвотных.**

**З 1997 года вернікам дазволілі маліцца ў клубе торфабрыкетнага завода. Працавалі ў нас святары з Браслава: Лешэк Вітвіцкі, Тадэвуш Кахановіч, Тадэвуш Дабравольскі, дыяканы Вячаслаў Барок, Валянцін Станкевіч і інш. З лістапада 2001 года ў нас маліўся Дар'юш Кубіца, які ўзначальваў Іказненскую парафію.**

■ **Данута Чэркас,** *парафія "Узвышэння Святога Крыжа", мястэчка Ахрэмаўцы*







## Будаўніцтва

У жніўні 2001 года адбылася сімвалічная закладка вуглавога каменя будучага касцёла, які асвяціў біскуп Уладзіслаў Блін.

Месца для пабудовы касцёла выбралі невыпадковае. На прыгожай горцы ў старажытным парку "Бяльмонты" калісьці быў касцёл, але яго разбурылі ў час Другой сусветнай вайны. Ад былога касцёла засталіся толькі рэшткі падмурка. Вось тут, побач, і вырашылі будаваць святыню.

Праз год былі ўзведзены сцены будучага храма. Будаўніцтва касцёла адбывалася пры ўмелым кіраванні ксяндза Лешэка Вітвіцкага. Брыгаду ўзначальваў Уладзімір Кезік.

Самая важная падзея адбылася 10 гадоў таму, калі адчыніліся дзверы нашай святыні.

Стаяў тады вельмі моцны мароз (ніжэй за -20), але нам было цёпла і радасна на душы, бо ў гэты дзень адбылося асвячэнне нашага касцёла "Узвышэння Святога Крыжа" ардынарыем Віцебскай дыяцэзіі Уладзіславам Блінам. Гэта была сапраўдная ўрачыстасць.

Прысутнічалі святары нашага дэканата, госці з Польшчы, прадстаўнікі грамадскасці, вернікі іншых парафій. Працаваў тады ў нас ксёндз Дар'юш Кубіца. Падчас асвячэння касцёла ў нашай парафіі з'явіліся новыя рэчы: прыгожы табернакулюм, новая фігура Пана Езуса, манстранцыя, рэліквія Святога Крыжа, новы келіх, новыя арнаты – гэта былі падарункі.

Алтарны стол, амбон, падстаўку для табернакулюма спраектаваў і зрабіў ксёндз Тадэвуш Кахановіч.

Ксёндз Дар'юш, калі выязджаў у Польшчу па дакументы, прывёз батлейку і арган. Пазней ксёндз Дар'юш з ксяндзом Анджэем Бочарам прывезлі стацыі Крыжовага шляху.

## Ахвярная праца

Храм адчыніў свае дзверы, але працы быў яшчэ непачаты край. Кожны дзень на працягу 10 гадоў даводзілася абнаўляць убранства касцёла. Унутранае аздабленне патрабавала вялікіх матэрыяльных укладанняў, доўгай і карпатлівай працы. Але нашы вернікі духоўна і маральна дапамаглі маладой парафіі. На працягу ўсяго гэтага часу разам са спецыялістамі працавалі і парафіяне. Да юбілею касцёла мы ўсе вельмі рыхтаваліся: сцены атынкавалі, пафарбавалі.

Галоўны алтар упрыгожвае фрэска, на якой знаходзіцца ўкрыжаваны Езус Хрыстус, а побач – яго Маці, Ян Хрысціцель і Марыя Магдалена. Фрэску выканаў мастак Уладзімір Кандрусевіч.

Святыня – вялікі рэлігійны цэнтр. Гэта месца спаткання чалавека з Богам. На Божае Нараджэнне заўсёды рыхтуем батлейку. Стараемся кожны раз рабіць яе іншай. Дзейнічаем так, як малюе нам нашае ўяўленне, дазваляюць

Касцёл Узвышэння Святога Крыжа

Расклад набажэнстваў:

| | |
|---|---|
| Панядзелак | 18.00 |
| Аўторак | 18.00 |
| Серада | 18.00 |
| Чацвер | 18.00 |
| Пятніца | 10.00 |
| Субота | 10.00 |
| *Нядзеля* | *12.00* |

У зімовы перыяд святая Імша праводзіцца ў будні дзень у 10.00

Тэл.: 8-02153-34199

# СВЯТЫНІ

наш розум, наша фантазія.

У нас створаны хор, хоць і невялікі, які ўзначальвае Жана Лабэцкая. Цудоўныя імшальныя спевы на беларускай мове ўпрыгожваюць набажэнствы, робяць іх больш узнёслымі, натхняюць вернікаў на шчырую малітву.

## З малітвай да Бога

24 красавіка 2004 года наш касцёл наведала дэлегацыя з Ватыкана.

16 ліпеня 2004 года быў створаны рух “Вызваленне ад злога духа” тэрмінам на 1 год (кс. Дар’юш Кубіца)

З 2003 года ў нас існуе “Жывы Ружанец”, які складаецца з 3-х руж дарослых. Кожную першую суботу месяца, калі мяняем таямнічкі, адпраўляецца імша за ўдзельнікаў руху. Пасля імшы прамаўляем літанію да Беззаганнага Сэрца Марыі, а потым кс. Ігнацій Санюта аб’яўляе нам інтэнцыі на месяц.

У 2008 годзе створаны “Легіён Марыі”, які актыўна ўдзельнічае ва ўсіх касцельных мерапрыемствах, займаецца гаспадарчымі справамі.

## Прыстанішча пілігрымаў

Пілігрымкі ўзмацняюць веру, дапамагаюць духоўнаму росту. Нашы парафіяне, дарослыя і моладзь, штогод удзельнічаюць у пілігрымцы ў Нацыянальны санктуарый Маці Божай у Будславе і ў санктуарый Маці Божай Браслаўскай Валадаркі Азёр.

Ахрэмаўцы – першы прыпынак на шляху пілігрымаў з Браслава ў Будслаў. Вернікі нашай парафіі заўсёды шчыра і гасцінна сустракаюць пілігрымаў, рыхтуюць для іх ежу.

Наша моладзь удзельнічала ў фестывалі “Зорка Бэтлеема” ў г. Мёры.Практыкуецца сустрэча Новага года ў касцёле.

Добрую памяць у сэрцах вернікаў пакінуў ксёндз Дар’юш Кубіца. Нягледзячы на тое, што сам паляк, вывучыў нашу мову, вучыў нас спяваць песні на беларускай мове, літургія праходзіла таксама на нашай мове.

Шчыры дзякуй і іншым святарам, якія ў нас працавалі. Гэта Яцэк Маркоўскі і Ян Пугачоў. Ксёндз Ян Пугачоў дапамог многім людзям старэйшага ўзросту, якія жылі без шлюбу, упарадкаваць сямейнае жыццё.



**На здымку:** біскуп Уладзіслаў Блін асвячае новы касцёл у Ахрэмаўцах.

## Пад апекай пастыраў

Духоўныя праблемы павінны быць найпершымі, але мы, парафіяне, павінны клапаціцца і пра тых, хто, кіруючыся Божай воляй і ласкай, дбае пра нас, пра святароў, пра ўтульнасць іх жылля. Святарам у нас спачатку даводзілася жыць на кватэры. Зараз у будынку нашага храма маецца такое жыллё. Дзякуючы намаганням парафіян і пробашча, была закончана плябанія.

Цяпер шосты год працуе ў нас ксёндз Ігнацій Санюта. Гэта малады, энергічны, ініцыятыўны пробашч. Вернікі ўдзячныя за шчырае і адданае сэрца святара, які заўсёды гатовы выслухаць, імкнецца зразумець, што турбуе кожнага, чым хто занепакоены або чым узрадаваны, дапамагае будаваць храм Божы ў сэрцах нашых дзяцей.

Мы ўдзячныя Богу за ўсё, што маем, а таму павінны памятаць пра тое, што ў касцёле нас чакае Езус, жывое сэрца якога б’ецца ў табернакулюме. Павінны прымаць удзел у набажэнствах, а спаткаўшы Хрыста ў сценах касцёла, несці яго іншым.

“Хто ідзе за мною, будзе мець жыццё вечнае”, – кажа Хрыстус. Мы таксама імкнёмся да гэтай мэты.

Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №12(21) снежань 2012 г.

# Калі п'юць бацькі



**Праблема алкагольнай залежнасці стаіць у нашай краіне вельмі востра. Шмат сілаў і намаганняў прыкладаецца дзяржавай і Касцёлам, каб пазбегнуць гэтай страшнай бяды, якая носіць нацыянальны характар. Але вельмі рэдка хто надзяляе патрэбную ўвагу такога кшталту хваробе, як сузалежнасць. Не сакрэт, што існуюць групы, якія дапамагаюць чалавеку пазбавіцца сваёй залежнасці або сузалежнасці. Што гэта за групы і дзе іх шукаць? Рэдакцыя вырашыла бліжэй пазнаёміць чытачоў "Каталіцкага весніка" з групай ДДА, якая дзейнічае ў Віцебску. На пытанні адказвае актыўны ўдзельнік і адна са стваральнікаў руху ДДА ў Віцебску Алеся Вайцяховіч.**

*Гутарыла Вікторыя Колзун*

**– Раскажыце, калі ласка, пра сябе. Якім чынам Вы прыйшлі да ўдзелу ў руху ДДА і як гэта паўплывала на Вашае жыццё?**

– Мяне завуць Алеся Вайцяховіч. Мне 23 гады, нарадзілася і выхавалася я ў каталіцкай сям'і. Скончыла Віцебскі дзяржаўны універсітэт імя П.М.Машэрава па спецыяльнасці "Сацыяльная педагогіка і псіхалогія". На сённяшні дзень працую педагогам у школе. Ужо даўно не з'яўляецца таямніцай для грамадства факт: тое, што выплывае з нашых сем'яў, пакідае адбітак на ўсім далейшым жыцці. Кожная праблема, з якой мы сустрэліся ў дзяцінстве, укараняецца ў нашым сталым узросце. Такой праблемай для мяне стаў алкагалізм маіх бацькоў. Яшчэ падчас навучання ў школе святар, што працуе ў маім родным мястэчку, запрасіў некалькіх асобаў на заняткі для дарослых дзяцей алкаголікаў (ДДА). Я пайшла за кампаніяй з аднакласніцай, бо не лічыла, што маю праблему, але пазней ужо на занятках зразумела, што мне патрэбная дапамога.

Гэта ўжо трэцяя група, у якой я працую. Першая супольнасць была, калі я вучылася ў школе, пазней, у студэнцтве, тры гады мы займаліся пры парафіі св. Барбары ў Віцебску, там жа ў гэтым годзе паўстала трэцяя супольнасць, у якой мы працуем па праграме "12 крокаў да жыцця". Лідара ў нашым калектыве няма, можна сказаць, што ў нас ёсць куратар – ім з'яўляецца святар.

**– Што такое ДДА?**

– ДДА – даслоўна "Дарослыя дзеці алкаголікаў". Гэта групы самадапамогі асобаў, якія сутыкнуліся з праблемай алкагалізму бацькоў у дзяцінстве. Але ў Віцебску гэта супольнасць для асобаў, якія маюць праблемы, звязаныя не толькі з тэмай алкагалізму бацькоў, але і рознымі іншымі праявамі, такімі, як жорсткае выхаванне ў сям'і, вопыт бацькі- або маці-тырана, розная кшталту гвалт – як фізічны, так і псіхалагічны, выхаванне ў няпоўных сем'ях і многія іншыя формы дысфункцыі.

**– Як выглядаюць вашы сустрэчы?**

– Мы стараемся прытрымлівацца адной структуры на кожнай сустрэчы, што дапамагае нам больш якасна да яе падрыхтавацца. На пачатку сустрэчы мы молімся, тым самым запрашаем Госпада быць з намі, удзельнічаць у нашым жыцці, бо без Яго дапамогі і благаслаўлення самі мы нічога не можам. Пазней абмяркоўваем здарэнні мінулага тыдня, дзелімся тым, што нас найбольш кранула, што ўразіла і пераходзім да абмеркавання пытанняў, якія нам прапануе праграма. Кожны адказвае на пытанні самастойна, абавязкова фіксуючы свае адказы на паперы, што таксама дапамагае пры абмеркаванні. Напрыканцы сустрэчы ў малітве дзякуем Госпаду за Яго благаслаўленне і апеку.

**– Група ДДА – гэта рэлігійная суполка?**

–Наша супольнасць з'яўляецца хрысціянскай, нашыя ўдзельнікі – як каталікі, так і праваслаўныя. Але мы адкрытыя для кожнага чалавека, не гледзячы на яго веравызнанне. А хрысціянскай супольнасць з'яўляецца яшчэ і таму, што працуем мы па праграме "12 крокаў да жыцця", а ў ёй усе разважанні, пытанні і праца пабудаваны на падмурку Слова Божага.

**– Удзел у групе з'яўляецца ананімным? Ці існуюць якія правілы?**

– Удзел у групе ананімны, але ўдзельнікі смела могуць сведчыць аб тых зменах, якія ўчыніў Госпад у іх жыцці праз працу па праграме. Канешне, існуе шэраг правіл, яны ніколькі не абмяжоўваюць нас, а наадварот, служаць на карысць супольнасці. Так, напрыклад, мы не распавядаем, хто і пра што выказваўся падчас сустрэчы. Гэта застаецца між удзельнікамі, кожны выказваецца толькі ад свайго імя, не перабівае таго, хто гаворыць, і не дае парадаў. Слухаючы адно аднаго, мы можам пачуць для сябе шмат цікавага і карыснага.

**– Як Вам дапамагаюць сустрэчы руху ДДА?**

– У першую чаргу, сустрэчы дапамагаюць зразумець сябе, атрымаць адказы на хвалюючыя пытанні, навучыцца разбірацца ў сваіх пачуццях і, што вельмі важна, палюбіць сябе. Бо чалавеку з "параненым" сэрцам цяжка жыць паўнацэнна і не паўтараць негатыўнага вопыту сваіх бацькоў і блізкіх. А каб стварыць добрыя сем'і і здаровае наваколле, варта распачаць гэтае цікавае падарожжа ў свет пазнання самога сябе і Бога.

**– Ці можна распазнаць сваю сузалежнасць, с чаго трэба пачаць?**

– Каб распазнаць сузалежнасць, адзінай схемы або метаду няма. У кожнага на гэта існуе свой шлях. Канешне, ёсць шэраг агульных рысаў, якія прысутнічаюць у кожнага сузалежнага, – гэта няўпэўненасць у сабе, адчуванне, што я за ўсё адказны, страх, жаданне ўсё трымаць пад кантролем ці наадварот – няўменне будаваць адносіны з іншымі, адзінота. На пачатку працы па праграме кожны ўдзельнік атрымлівае ліст-апытальнік, дзе пералічаныя ўсе гэтыя рысы, у якіх ён можа ўбачыць сябе.

**– Як і дзе можна знайсці группу ДДА?**

– Наша супольнасць сустракаецца кожны панядзелак а 19:00 у будынку каля касцёла св. Барбары. Таксама можна загадзя дамовіцца аб удзеле ў сустрэчы або проста звярнуцца з пытаннямі, якія вас цікавяць, па тэлефоне: + 375298934307 (Алеся), ці даслаць ліст на электронную пошту wolnaja@mail.ru

# СУСТРЭЧА МОЛАДЗІ



**Супольная малітва і радасць у чарговы раз аб'ядналі моладзь з Дунілавіч, Варапаева і Лучая. Сустрэча, якая адбылася на гэты раз 1 снежня ў Навасёлках (Лучайская парафія, Пастаўскі дэканат, Віцебская дыяцэзія) была нагодай да роздуму над мэтай Адвэнту, які распачынаем. Гэта таксама падкрэслівала тэма спаткання – "Маё чаканне".**

**■ с. Марына Брылёнак**

На самым пачатку кс. Павел Самсонаў з вялікай радасцю прывітаў усіх удзельнікаў і зазначыў, што хлопцы і дзяўчаты павінны быць сведкамі сваёй веры. А гэта значыць, несці іншым радасць, дабрыню і любоў. Таксама не менш значнай была канферэнцыя, якую прамовіў кс. Чэслаў Куцмеж. Падчас гэтага святар заклікаў моладзь задумацца над асабістай верай.

Ці часам у нашым жыцці не ёсць так, што мы называем сябе вернікамі, але калі надыходзіць нядзеля, то раптам у нас з'яўляецца тысяча іншых спраў? Ці мы сапраўды так прагнем ад шчырага сэрца памаліцца, паразмаўляць з Езусам аб сваіх клопатах? Святар паставіў пытанне кожнаму: Якое месца я прызначаю Богу? І ці ўвогуле Ён мае месца ў маім сэрцы? Таксама кс. Чэслаў заахвоціў хлопцаў і дзяўчат сачыць за словамі, якія вымаўляюць. Бо хрысціянін не можа дазволіць сабе ўжывання дрэнных слоў. Кожны павінен разумець, што праз хрост мы сталіся Божымі дзецьмі і ад таго моманту сваімі дрэннымі словамі ці ўчынкамі крыўдзім нашага Нябеснага Айца.



Пасля канферэнцыі моладзь з Дунілавіч паказала сцэнку "Нямая малітва", сэнс якой заключаўся ў тым, што толькі шчырая малітва з сэрца даходзіць да Бога. Важным пунктам сустрэчы была супольная Эўхарыстыя і адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. Моладзь разважала над таямніцай Уцелаўлення Бога і мэтай Адвэнту.

Пасля вельмі насычанай духоўнай часткі спаткання маладых людзей чакала вялікая радасць. Кс. Мікалай Ліпскі запрасіў усіх прысутных на канцэрт гурта "Рэха". Якая ж радасць панавала ў танцзале! Спевы, танцы і смех – усё гэта было сярод моладзі.

Вельмі важна адчуваць сябе адзінай супольнасцю. Менавіта гэтаму і служаць такія сустрэчы. Тут моладзь умацоўваецца ў сваёй веры, каб потым дзяліцца дабром і радасцю з іншымі.

# НАВАГОДНІЯ НАДЗЕІ

**Шмат людзей чакае ад новага 2013 года перамен да лепшага, спадзяецца на спаўненне мараў і на тое, што ўсе надзеі спраўдзяцца. А што думаюць напярэдадні наступнага года чытачы "Каталіцкага Весніка"?**

*Гутарыла Ірына Грэйць*

**Яўген Шэін:**

– Ад 2013 года я чакаю шмат новых сустрэч моладзі як у Браславе, так і ў іншых гарадах Беларусі. Хачу знайсці шмат новых знаёмых і добрых сяброў. Хочацца, каб моладзь не страціла веру ў Бога ў новым свеце пад назвай «інтэрнэт». Спадзяюся, што маладое пакаленне не будзе забываць Хрыста. Было б добра, калі б на спатканні моладзі прыязджала шмат людзей, каб разам маліцца і вызнаваць веру. Хачу таксама пажадаць, каб у 2013 годзе людзі жылі з Госпадам.



**Алёна Атрахімовіч:**

– Што я чакаю ад 2013 года? Я працую ў інтэрнаце, дзе выхоўваюцца пакінутыя бацькамі дзеці. Зусім не разумею, чаму людзі сваё дзіця, дадзенае Богам, пакідаюць, як рэч, якая ім не падыходзіць. Няхай у 2013 годзе Бог дапаможа кожнаму дзіцяці знайсці сваю сям'ю, дзе іх будуць проста любіць. А гэта так важна, калі ты ведаеш, што цябе любяць толькі за тое, што ты ёсць!!!



**Кс. Валерый Марціноўскі:**

– 2013 год... Няхай ён стане часам, калі я зраблю крок наперад. Няма мяжы дасканаласці, заўсёды можна стаць лепшым. Асабліва я – гэта той, якому трэба навярнуцца. Штодня выходзіш да людзей з Божым словам, маеш у руках дар быць распарадчыкам святых сакрамантаў, жывеш у супольнасці іншых святароў і разумееш, што не дацягваешся да тых спадзяванняў, якія Касцёл на цябе ўсклаў. Таму чакаю ў новым годзе найперш спатканняў з вялікімі людзьмі. Вядома, не з вялікімі гэтага свету, але з вялікім сэрцам. Бо сэрца, якое палае любоўю да Бога і Касцёла, здольнае падбадзёрыць чалавека і дадаць веры ў тое, што страчана яшчэ не ўсё. Таксама хачу навучыцца дзякаваць і блаславіць кожны дзень і кожную сустрэчу. Так, як гэта рабілі мае продкі, таму доўга пражылі на зямлі і навекі захавалі добрае імя і памяць пра сябе. І трэцяе, хачу не страціць магчымасці рабіць дабро людзям. Бо ў бліжніх чакае маёй дапамогі сам Езус Хрыстус.



**Павел Купцоў:**

– Я ніколі не задумваўся, чаго я чакаю ад наступнага года. Але, тым не менш, нейкія спадзяванні ёсць у кожнага. Як хрысціяніну мне ўсё больш хочацца ўзрастаць у веры: удзельнічаць у жыцці парафіі, ездзіць на рэкалекцыі, сустрэчы аб пакліканні. Таксама ў нас, у Серабранцы, ёсць Каталіцкі моладзевы цэнтр імя святога Яна Боска. Для яго ў мяне шмат планаў на 2013 год. Напрыклад, спаборніцтвы па футболе, карнавал. Таксама я вельмі люблю граць на гітары і з'яўляюся ўдзельнікам гурта "Небасхіл". Я вельмі хачу праслаўляць Бога на розных канцэртах. Плануе схадзіць летам у пілігрымку. Хочацца, каб 2013 год быў вясёлым і яскравым. Я таксама заўзятар футбольнай каманды "Чэлсі". Мая невялікая "хлапчуковая" мара – каб яны выйгралі Лігу чэмпіёнаў! Чакаю таксама новых адкрыццяў, новых знаёмстваў, прыемных неспадзяванак.



**Яна Тарасевіч:**

– Я чакаю ад наступнага года шмат новага і цікавага. Канешне, хацелася б, каб 2013 быў паспяховым, каб у гэтым годзе я знайшла шмат новых знаёмых, пабывала ў многіх месцах і на розных сустрэчах. Але ўсё ж галоўнае – каб мая вера ўмацавалася. У гэтым мне дапамогуць гамілії святароў, духоўная літаратура, хрысціянскія сустрэчы моладзі. Я вельмі хачу, каб мае планы рэалізаваліся.



# ШВЕЙЦАРСКАЯ ГВАРДЫЯ ПАПЫ



Хто можа служыць у Швейцарскай гвардыі?

Усе гвардзейцы павінны быць католікамі і мець сярэднюю адукацыю. Абавязкова патрэбна прайсці чатырохмесячную службу ў войску. Кожны павінен мець рэкамендацыю ад свецкіх улад і ад касцёла. Быць вайскоўцам у Швейцарскай гвардыі можна з 19 да 30 гадоў. Тэрмін знаходжання ў войску можа вагацца ад мінімальнага – 2 гады – да максімальных 20 гадоў. Навабранцы павінны быць не ніжэйшымі за 174 см. Гвардзейцы не носяць вусы, бараду і доўгія валасы. Калі салдат захоча ажаніцца, яму патрэбны спецыяльны дазвол. Узяць шлюб можна толькі пасля 3 гадоў службы. Жанчына, якую абірае вайсковец, абавязкова павінна быць каталічкай.

## Дух сярэднявечча

Магчыма, многія швейцарскія хлопчыкі мараць стаць гвардзейцамі, служыць і ахоўваць Папу і яго гасцей. Усё гэта нездарма, бо салдаты носяць вельмі яскравую і прыгожую форму, якая вабіць вока. Некаторыя мяркуюць, што іх адзенне шылі па малюнках аднаго з найвялікшых дзеячаў эпохі Рэнесансу – Мікеланджэла Буанароці. Канешне ж, стыль гэтага адзення крыху змяніўся, але ён па-ранейшаму адлюстроўвае сярэднявечны дух. Разам з тым, калі Папа выязджае за межы Ватыкана, вайскоўцаў можна ўбачыць у звычайным адзенні.

Дзякуючы адважнасці Швейцарскай гвардыі Папа Рымскі знаходзіцца пад надзейнай аховай.

*Ірына Грэйць*

## Мужныя гвардзейцы

Адным з відаў узброеных сіл Ватыкана з'яўляецца Швейцарская гвардыя. Яе гісторыя паходзіць з далёкага 1506 года. У той час швейцарскія вайскоўцы лічыліся найлепшымі ў Еўропе, таму папа Рымскі Юлій II выдаў загад аб стварэнні гвардыі. Маладыя гвардзейцы былі мужнымі, вернымі і адважнымі. Валодаючы ваенным майстэрствам, швейцарскія добраахвотнікі ахвярна абаранялі межы папскай дзяржавы.

Прайшоўшы праз розныя выпрабаванні на працягу стагоддзяў, яны і да нашага часу ахоўваюць Святога Айца і яго рэзідэнцыю. У гвардыю ўваходзіць 110 чалавек, якія па традыцыі з'яўляюцца грамадзянамі Швейцарыі.



# На радасць дзецям






**У Лучаі 9 снежня святкавалі "Мікалайкі". У касцёле прысутнічалі не толькі вернікі, але і ганаровыя госці – здымачная група Белтэлерадыёкампаніі, вядомы бард з Гродна Віктар Шалкевіч і нават… святы Мікалай.**

**Іна Сняжкова**, *тэкст;* **Альфрэд Мікус**, *фота*

Урачыстую імшу правёў мясцовы ксёндз Мікалай Ліпскі. Ён расказаў парафіянам пра жыццё і дзейнасць свайго апекуна, аднаго з самых шануемых заступнікаў хрысціян.

Святы Мікалай нарадзіўся прыблізна ў 270 годзе на тэрыторыі сучаснай Турцыі. З малых гадоў ён прысвяціў сябе служэнню Богу, быў біскупам горада Міры. У часы ганенняў на хрысціян Мікалай быў заключаны ў турму, дзе правёў цэлых восем гадоў. Нягледзячы на катаванні, працягваў прапаведваць хрысціянства. Толькі пасля прыходу да ўлады імператара Канстанціна біскуп зноў стаў правіць сваёй паствай. Быў ён і ўдзельнікам першага Сусветнага Сабору, які праходзіў у 325 годзе ў Нікеі. З гістарычных крыніц вядома, што біскуп Мікалай выступіў абаронцам трох несправядліва прыгавораных да смерці візантыйцаў.

Пра іншыя добрыя справы святога ў народзе складзена паданні, якія перадаюцца з пакалення ў пакаленні. Яны расказваюць пра тое, як Мікалай дапамагаў бедным і абяздоленым, а дзецям падкідваў манеткі і ежу ў выстаўленыя за дзверы боцікі. Яшчэ адна легенда апавядае, як ён дапамог беднай дзяўчыне выйсці замуж за каханага, даўшы ёй грошы на пасаг.

У 10 стагоддзі ў Кёльнскім саборы ў дзень памяці святога Мікалая (6 снежня) вучням касцельнай школы пачалі раздаваць салодкія пачастункі. А пазней у Германіі ў дамах сталі вывешваць боцікі і панчошкі для таго, каб святы паклаў туды падарункі дзецям. Гэтыя традыцыі хутка распаўсюдзіліся па Еўропе.

Паслухмяных дзетак святы Мікалай не пакідае без прэзентаў. У гэтым у нядзелю пераканаліся маленькія вернікі лучайскай парафіі. Яны атрымалі салодкія падарункі ад еўрапейскага "калегі" Дзеда Мароза, які завітаў у касцёл у кампаніі златакрылых анёлаў. Здзіўленыя дзіцячыя погляды і шчырыя ўсмешкі было не злічыць!




**На здымку:** выступае знакаміты бард Віктар Шалкевіч.

**Шаноўны ксёндз пробашч Мікалай Ліпскі!**

*З Днём Апекуна віншуем сардэчна*
*Хай адорыць Вас ласкаю Бог.*
*Сеяць добрае, мудрае, вечнае*
*Ваш бясцэнны святарскі доўг.*
*На вялікую плённую працу*
*Хай натхняе Вас Дух Святы*
*Апякункаю Божая Маці*
*І заступніцай будзе заўжды.*
*Колькі спраў і задумаў новых!*
*Для парафіі жыць і тварыць*
*Гэта з Вашай ідэі натхнёнай*
*Гімн Лучайскай святыні гучыць.*
*З Вашай ласкі шляхі пілігрыма*
*Зведаць нам давялося не раз.*
*Шчыра зычым у Дзень Імянінаў*
*Шчодрых Божых дароў для Вас.*

*З удзячнасцю*
*Вашы Лучайскія парафіяне*

Дарослым дадало настрою жывое, эмацыйнае, прасякнутае тонкім пачуццём гумару выступленне барда Віктара Шалкевіча. Перад вернікамі выступілі і лучайцы – у вершаванай форме яны павіншавалі з імянінамі ксяндза Мікалая Ліпскага, пажадаўшы яму Божага бласлаўлення для далейшых спраў.

На святой імшы прысутні-чалі пілігрымы з Пастаўскага і Шаркаўшчынскага раёнаў, якім сёлета пашчасціла пабываць ля мошчаў св. Мікалая ў Бары.

На свяце працавала здымачная група Белтэлерадыёкампаніі. У хуткім часе на экраны канала "Беларусь-1" выйдзе відэафільм пра Лучайскі касцёл св. Юды Тадэвуша. Сачыце за праграмай!





## Шчыра дзякуем!

Мы, вернікі парафіі святога Юзафа, што на Браслаўшчыне, у в. Барадзенічы, хочам падзяліцца радасцю. Справа ў тым, што Пан Бог паслаў нам цудоўнага душпастыра – кс. Ежы Ноцуня. У нашай парафіі ён ужо чатыры гады. Гэта вельмі сціплы чалавек, які прыкладам свайго спакою, цярплівасці непрыкметна, але настойліва вучыць нас любіць свайго бліжняга і Пана Бога.

Кс. Ежы захапляецца вырошчваннем кветак. У яго незвычайна прыгожай калекцыі знайшлі месца разнастайныя гатункі ружаў, касачоў, лілеяў, яшчэ рэдкіх у нашых мясцінах бругмансій і шмат іншых кветак, назвы якіх і не ўспомніш.

Прываблівае нас, парафіянаў, і яго высокае музычна-песеннае майстэрства. Пробашч шчодра дзеліцца сваім талентам, вучыць усіх новым рэлігійным спевам. І калі гучыць песня ў выкананні кс. Ежы, то на вачах у вернікаў часам блішчыць сарамлівая слязінка.

Мы сардэчна дзякуем нашаму пробашчу за яго самаадданую працу на Божай ніве і віншуем з Днём народзінаў, які ён адзначыць 3 студзеня:

Хай Вас адорыць Божа Міласцівы
*Сваёю ласкай, дабрынёй, цяплом.*
*Насустрач Вам з усмешкаю шчаслівай*
*Людскім патокам хлыне сэрц нагбом.*
*Хай будзе плённым Вашае пакліканне,*
*Хай Вас атуліць Божая любоў.*
*І хай супольнасць наша называе Вас*
*Славутым нашым святаром.*

***Удзячныя парафіяне касцёла святога Юзафа, в. Барадзенічы***

## Віншуем!

*Са святам Божага Нараджэння сардэчна віншуем нашых шаноўных святароў – кс. Мечыслава Янчышына і а. Станіслава Памыкалу, а таксама сясцёр-францішканак, якія ахвярна служаць у парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім. Жадаем Божага блаславлення на кожны дзень жыцця, апекі Маці Божай, моцнага здароўя, аптымізму, творчых здзяйсненняў. Кс. Мечыславу ў чарговы Дзень народзінаў (1 студзеня) і а. Станіславу ў Дзень народзінаў (4 студзеня) зычым радаснага настрою і многа Божых ласкаў.*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

# ВУЧНІ ХРЫСТА



Да вучняў Хрыста, што жывуць у свеце, належаць як мужчыны, так і жанчыны. Яны пакліканыя, каб сведчыць пра Хрыста сярод людзей і каб боская навука аб збаўленні была вядомая і прынятая ўсімі людзьмі. Некаторыя з іх, натхнёныя Духам Святым да жыцця паводле харызмату святога Дамініка, далучаюцца да Ордэну Прапаведнікаў на адмысловых умовах, складаючы адмысловыя прысягі. Гэта так званы Трэці Ордэн св. Дамініка або Дамініканскі Ордэн свецкіх. Свецкія дамініканцы, якіх называюць яшчэ дамініканскімі тэрцыярыямі, ствараюць супольнасці – Фратэрні і складаюць адну сям'ю з іншымі адгалінаваннямі Ордэну. Яны ўдзельнічаюць у яго місіі праз навучанне, малітву і абвяшчэнне Слова Божага згодна з умовамі жыцця ў свеце. Узмоцненыя братэрскай супольнасцю, тэрцыярыі даюць асаблівае сведчанне сваёй веры, прыслухоўваючыся да патрэбаў людзей свайго часу, і аддаюць сябе на служэнне праўдзе.

Трэці дамініканскі Ордэн у Беларусі існуе ўжо 10 год. Дзейнічае ён пры кляштары Айцоў дамініканцаў у Віцебску. Да нядаўняга часу супольнасць была нефармальнаю, але 8 снежня 2012 года адмысловым дэкрэтам Правінцыяльнага настаяцеля Братоў Прапаведнікаў Польскай правінцыі а. Крыштафа Паплаўскага OP у Беларусі была афіцыйна зацверджаная Фратэрня Святой Тройцы. У гэты дзень у Віцебску сабраліся тэрцыярыі з Віцебска, Мінска, Полацка, Баранавічаў і Гомеля. Пяцёра з іх склалі часовыя прысягі, а адна асоба — прысягі вечныя. Таксама ў гэты ўрачысты дзень шасцёра новых членаў Фратэрні былі прынятыя ў навіцыят Дамініканскага Ордэну свецкіх.

На сённяшні дзень колькасць свецкіх дамініканцаў у Беларусі складае 19 асобаў з усёй краіны. Гэта людзі рознага ўзросту з рознай адукацыяй, сямейныя і самотныя. Стараючыся на сваіх месцах прапаведаваць Божае Слова сваім жыццём, тэрцыярыі бяруць актыўны ўдзел у жыцці Касцёла, супрацоўнічаючы з такімі арганізацыямі, як «Легіён Марыі», а таксама з каталіцкімі выдавецтвамі.

***Вольга Кацярына Муская OPs***

# Радасць сустрэчы з Богам у новым касцёле

**Радасную падзею перажывалі вернікі парафіі Маці Божай Фацімскай у г. Дуброўне 18 лістапада 2012 года. Упершыню ў сценах новага касцёла была праведзена нядзельная святая Імша, якую цэлебраваў ксёндз Уладзімір Шымковіч.**

Душпастырства ў каталіцкай парафіі ў Дуброўне перастала існаваць у 1917 годзе, калі айцы-францішкане вымушаныя былі пакінуць кляштар і касцёл, які пазней перабудавалі ў кінатэатр.

І толькі ў 2001 годзе па ініцыятыве Ардынарыя Віцебскай дыяцэзіі біскупа Уладзіслава Бліна была створана парафія і прызначаны яе першыя душпастыры: святой памяці а.Сабін Яцэк Тлок і а. Адам Наталіс Фалькус. Месцам правядзення св. Імшы быў абраны адзін з пакояў на плябаніі.

У 2010 годзе быў закладзены падмурак новага касцёла, потым выраслі сцены, з'явіўся дах. Будоўля яшчэ не скончана, але Год веры, аб'яўлены ў паўсюдным Касцёле 11 кастрычніка 2012 года, было вырашана распачаць у новым храме нашым удзелам у Эўхарыстыі. Асвячэнне новай святыні ў Дуброўне запланавана на кастрычнік 2013 года. На працягу Года веры мы будзем маліцца ў нашым касцёле, каб пасля доўгага перыяду атэізацыі і бязвер'я на дубровенскай зямлі як мага больш людзей знайшлі сваю дарогу да Бога і святыні. І нам вельмі хацелася б, каб такой святыняй для жыхароў і гасцей горада і раёна стаў касцёл Маці Божай Фацімскай у Дуброўне.

Выказваем вялікую ўдзячнасць біскупу Уладзіславу Бліну за пастаянны клопат і дапамогу ў пабудове нашага касцёла, а таксама святарам, якія ў нас працавалі. Асаблівая падзяка кс. Уладзіміру Шымковічу, цяперашняму душпастыру, які ўжо два гады займаецца справамі будоўлі. Хочам верыць, што праз год убачым нашу святыню ва ўсёй прыгажосці і велічы.

***З павагай, ад імя парафіянаў Л.І. Арлова***



*Добрая Вестка ў тваім доме!* Каталіцкі ВЕСНІК №12(21) снежань 2012 г.



# Братья и сёстры во Христе

**Когда я получила в университете задание написать сочинение на тему «Возможности и поиск путей объединения Православной и Католической Церквей», то, признаюсь честно, впала в ступор… Что писать? Какие же тут пути?**

■ **Агата Панарад**

В голову лезли лишь противоречивые мысли о том, что мы никогда не встанем на путь сближения, что православные нам, конечно же, «симпатичны», но чужды по духу... Вспомнились моменты, когда в православном храме я видела объявления с надписями: «о католиках, еретиках и самоубийцах не молимся». Да и вообще, много чего негативного можно было бы припомнить... Думаю, у каждого в запасе найдётся парочка «счастливых» моментов с православными «воцерковлёнными бабушками», которые так и норовят тебя «научить платок в храм надевать, правильно креститься и свечку в нужном месте ставить.».

### Меня всё устраивает

Пришла к выводу, что в жизни я, миролюбивая католичка, не знаю, как отразить на бумаге то, что могло бы помочь моей Церкви и Православной Церкви воссоединиться. Не знаю, и не вижу пути решения проблемы, наверное, потому, что никогда в жизни об этом по-настоящему не задумывалась, меня это никогда не беспокоило. Мне всегда казалось, что вопрос экуменизма должен прорабатываться высшими иерархами Церкви, а никак не мирянами... Моё совсем не богословское мнение на эту проблему всегда было таково: «В моей Церкви меня всё устраивает, это они (православные, протестанты) от нас откололись…» Но правильно ли это?

### Христианский подход?

Если попытаться отбросить все негативные моменты, которые во многом зависят лишь от обстоятельств и от конкретных людей, и попытаться посмотреть в глубь проблемы, то стоит заметить, что все великие войны, междоусобицы и расколы начались с эгоизма, нежелания понять и принять позиции другой стороны. Возможен ли в христианстве такой подход?

Церковь является Телом Христовым, а Тело не может быть разделено. Сам Иисус Христос и апостолы говорят и неоднократно подчёркивают необходимость единства Церкви. Павел в послании к римлянам (Рим. 12, 4-5) говорит о том, что только все вместе, в единстве мы составляем Тело Христово. Именно поэтому, как мне кажется, сейчас одной из главных задач Церкви является поиск путей объединения, и сам путь объединения.

### Путь решения проблемы – в поиске Христа

Путь решения проблемы разделения Церкви, как мне кажется, лежит, главным образом, в искреннем поиске Христа и Его правды, а также в познании и уважительном отношении к вероучению и Преданию Церкви. Нам, верующим людям, важно знать и принимать догматы и традиции своей Церкви, но при этом также немаловажно знать и относится с уважением к вероучительным истинам другой Церкви. Это необходимо, прежде всего, для того, чтобы искать общие точки соприкосновения и уметь пользоваться совместным богатством богословских мнений и традиций наших Церквей. Важно попытаться прочувствовать глубину и красоту другой традиции.

Может быть, именно тогда внутри каждого из нас произойдёт метанойя (греч. «изменение ума», «покаяние»), что поможет нашему сердцу духовно пробудиться в любви к Богу и ближнему. Это принципиально новое мышление, изменение сознания даст новое отношение к христианину другой Церкви. Где всё меньше будет слышно слов «еретик, сектант, отступник», но всё больше – «мой брат или сестра во Христе».

*Фото с сайта: www.mirboga.ru*

# Крыніца душэўнай радасці

## Яшчэ раз пра сакрамант споведзі ў Адвэнце

**Часам чалавечая душа адчувае незвычайныя перажыванні, якія могуць доўжыцца на працягу некалькіх дзён або месяцаў. Як бы мы сябе ні супакойвалі, цяжар усё больш узрастае. Узнікае вялікіціск і боль душы. Здаецца, што незразумелая занепакоенасць не мае прычыны.**

■ **Ірына Грэйць**

### Дзе знайсці дапамогу?

Зразумела, што чалавек, які знаходзіцца ў такім стане, тэрмінова будзе шукаць дапамогі. Першае, што можа зрабіць кожны з нас, – пажаліцца блізкаму чалавеку ці сябру. Цябе супакоілі, далі шмат парад. І вось перажыванні пачалі знікаць. Сябры разышліся, а ты адчуваеш, што боль вяртаецца. Зноў пачынаюцца пошукі. Суцяшэнне ў алкаголі яшчэ больш пагаршае стан, псіхолагі-шарлатаны і варажбіткі забіраюць апошнія грошы. І нават час – "найлепшы лекар" – не загойвае душэўныя раны. Чалавек ужо не звяртае ўвагі на тое, што адбываецца побач.

### Палёгка на душы

Складаны, але вельмі эфектыўны спосаб пазбавіцца ад душэўных перажыванняў – шчырая споведзь. Безумоўна, цяжка прыйсці да Бога з усімі грахамі і слабасцямі. Але чалавек павінен пастарацца зрабіць усё магчымае, каб рахунак сумлення даў эфектыўны плён. Калі ж наша душа ачысціцца ад грахоў, яна адчуе супакой, знікнуць ранейшыя перажыванні.

Асабліва важна перажываць сакрамант споведзі ў Адвэнце. У гэты час мы з нецярпеннем чакаем нараджэння Езуса Хрыста. Ужо без граху, атрымаўшы душэўны спакой, мы радасна сустрэнем Збаўцу, які народзіцца.

**Паэзія**

***

*Загоралась над Римом*
*Благодати заря,*
*Выливалась незримо*
*На Престол рыбаря.*

*На Престоле и ныне*
*Пётр – Викарий Христа.*
*Церковь Божьего Сына,*
*Как невеста чиста.*
*Церковь необорима,*
*Только Церковь свята,*
*Церковь древнего Рима –*
*Тело Бога – Христа.*

*Воскресения радость,*
*Над Отчизной заря,*
*Светит миру и граду*
*Благодать Рыбаря.*

*Наполняются в храмах*
*Святым Духом сердца...*
*Ключ от Неба по праву*
*У Святого Отца.*

***Валерий Синяковский,***
*г. Витебск*

### Бацькоўская любоў

*Як апісаць бацькоўскую любоў?*
*Святая, шчырая, надзейная, трывае...*
*Чаму да іх мы прыязджаем зноў,*
*Калі нават юнацтва прамінае?*

*Бо там любоў, надзейна абарона*
*Ад прыкрасцяў жыцця, чужых людзей,*
*Нас супакоіць матчынае слова,*
*Упэўніць роднасць бацькавых плячэй.*

*Жыццё знявечыць можа вельмі хутка,*
*Зажаць у кут і роспач пасяліўшы,*
*Заставіць ненавідзець, верыць чуткам,*
*І можна жыць сябе зусім згубіўшы.*

*Тады мы да бацькоўскага парога*
*Вяртаемся за сэнсам існавання.*
*І раптам, з дапамогай нават Бога,*
*Мы адчуваем да жыцця вяртанне.*

*Таму пакуль бацькі нашы жывыя,*
*Патрэбна цешыцца нам кожным днём.*
*Хай ім дапамагаюць усе святыя*
*І Бог адорыць доўгім іх жыццём!*

***Бажэна Цялега***

### У ноч Божага Нараджэння

*Аксаміт цёмна-сініх нябёсаў,*
*Ліхтароў залацістыя вочы...*
*Бэтлеемская зорка дзівосна*
*Цішыню растрывожыла ночы.*

*О святая, цудоўная ночка!*
*У мясціне далёкай ад дома*
*Нарадзіла Матуля Сыночка*
*У халодным хляўцы на саломе.*

*У бязмежнай нябеснай прасторы*
*Зазвінелі зор срэбных званочкі,*
*Загучалі анёльскія хоры*
*Пасярод незвычайнае ночкі.*

*Хай жа кожнае сэрца адкрыта*
*Для Цябе будзе, Збаўца, наш Божа,*
*Не хляўцом, дзе бязбожжа карыта,*
*А калыскай любові прыгожай!*

***Генавефа Бартко,***
*в. Абруб Глыбоцкага р-на*

**Дзесяцігадовы юбілей 12 лістапада адзначыў парафіяльны хор "Fiat" касцёла Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Мёрах. Яшчэ па літургічным календары ў чацвер, 22 лістапада, адзначылі дзень успамінаў святой Цэцыліі, якая з'яўляецца апякункай арганістаў і харыстаў. Такім чынам, дзве даты за месяц.**

■ **Вольга Вішнеўская**



**На здымку:** Хор "Fiat" (няпоўны склад) у Польшчы ў адным з касцёлаў г. Чанстахова летам 2011 года.

# Хор "Fiat"

### Як усё пачыналася

Зазірнём крыху ў гісторыю. Ініцыяваў стварэнне хору ксёндз Крыштаф Міянкіна неўзабаве пасля таго, як прыслалі яго працаваць пробашчам парафіі з Опсы. Арганістка Анжэла Кіпрушава была запрошана на працу з суседняга Браслаўскага раёна. У хоры было першапачаткова разам з ёй чатыры чалавекі, яшчэ Іна Голуб, Марына Баговіч і Марына Урбановіч. Яны спявалі на службах, паступова пачалі далучацца і іншыя. Пакуль без назвы, але заявілі пра сябе на першым фестывалі калядак "Зорка Бэтлеема", што адбыўся ў 2001 годзе ў РДК. Дарэчы, конкурс у мінулым годзе таксама адзначыў дзесяцігадовы юбілей.

Калі звярнуцца да назвы "Fiat", то з лацінскай мовы яна перакладаецца як "няхай так станецца". Менавіта такія словы прамовіла Марыя анёлу Габрыэлю, калі той абвясціў ёй, што яна народзіць Сына Божага. Акрамя таго, гэта і назва радыё, што працуе ў Чанстахове, а яго дырэктар у свой час ахвяраваў пэўныя сродкі на строі харыстам. Сімвалічная назва аддае супольнасць у апеку Божай Маці.

### Гастролі

Хор упрыгожвае спевам богаслужэнне не толькі ў святы, але і кожную нядзельную службу а 12 гадзіне ў мёрскай святыні. Калектыў таксама запрашаюць на ўрачыстасці і ў іншыя парафіі. Як прыгадвае адна з харыстак Марына Баговіч, першы выезд быў у в. Слабодка Браслаўскага раёна, куды быў пераведзены былы пробашч мясцовай парафіі ксёндз Уладас Пятрайціс. Ён пасля атэістычных часоў шмат зрабіў для Мёрскага краю ў плане духоўнага развіцця, сам прыгожа спяваў і далучаў да гэтага іншых.

Увогуле геаграфія падарожжаў хору за дзесяцігадовую гісторыю існавання ўжо дастаткова вялікая. На тэрыторыі Беларусі пабывалі пераважна ў вёсках і гарадах нашай вобласці: Друі, Паставах, Росіцы, Лужках, Слабодцы, Іказні, Браславе, Фарынаве і іншых. Спявалі мёрцы, праслаўляючы Бога ў храмах Польшчы, Аўстрыі, Чэхіі, Галандыі, Бельгіі, Літвы, Францыі, Германіі. Як адзначыла кіраўнік хору Анжэла Кіпрушава, "сёння людзі самі шукаюць кантакту з намі". Разам з тым гэта вялікая адказнасць, што ляжыць на кожным са спевакоў. Нярэдка ў час вандровак здараліся выпадкі, калі пасля набажэнстваў людзі падыходзілі і выказвалі падзяку за цудоўную малітву спевам.

### Рэпертуар

Гармонію, якую бачна на службе, дасягнуць атрымліваецца не адразу. Папярэднічаюць гэтаму рэпетыцыі, што праводзяцца раз на тыдзень, а перад святамі і часцей. У кожнага з харыстаў свае заняткі і шмат працы дома, але час знаходзяць. Адны маюць музычную адукацыю, іншыя – не. З верай у сэрцы і гэта пераадольваецца, проста трэба некаторым крыху больш уважлівасці, а з Божай дапамогай лягчэй. Як можа быць інакш, калі кожная рэпетыцыя пачынаецца з малітвы. Як вынік прыгожым чатырохгалоссем гучаць малітоўныя спевы на беларускай, лацінскай і польскай мовах.

Сёння ў хоры налічваецца больш за дваццаць чалавек. Час не стаіць на месцы, і жыццё змяняецца: хтосьці пераязджае ў іншы горад, у сям'і з'яўляецца дзіця і часова чалавек больш увагі надзяляе сваім блізкім, але пра сваю супольнасць не забываецца. Абавязкова прыходзячы ў касцёл, далучаецца да спеваў.

Трэба адзначыць, што існуе ў парафіі пераемнасць пакаленняў: на службе, што адпраўляецца на польскай мове раніцай у нядзелю, спяваюць старэйшыя вернікі, а дзясятай гадзіне – дзеці, апоўдні – хор "Fiat", а ўвечары – моладзь. Дзеці і моладзь рэгулярна збіраюцца на рэпетыцыі, вывучаюць новыя спевы. Разам з тым узрастаюць духоўна, беручы прыклад са старэйшых.

Як кажуць, хто спявае, той двойчы моліцца. Напрошваецца ўдакладненне: важна яшчэ, калі гэта ідзе ад душы і на хвалу і праслаўленне Бога.

# Просьба о помощи

Просим о молитве за нашу доченьку Марию. Её, рождённую по католическому календарю в день Матери Божией – 1 января, – Бог одарил тяжёлым заболеванием, а нас, её родителей, возможностью развивать свою любовь, терпение и доверие нашему Небесному Отцу.

Маленькая Мария имеет большую проблему со здоровьем. Она родилась с тяжелым врождённым пороком развития (серьёзное повреждение мозга). Исследования показали наличие признаков атрофии в лобной, височной и теменной частях мозга. Поэтому Мария имеет не только грубую задержку развития, но и ежедневные судороги.

Традиционная медицина в Беларуси кроме противосудорожных препаратов ничего не может ей предложить. А они те только вредны для здоровья, но и малоэффективны для нашей доченьки. К счастью, есть люди, которые вот уже в течение пятидесяти лет занимаются помощью детям с повреждением мозга, и результаты их работы удивительные. Это Институт развития человеческого потенциала. Один их филиалов находится в Италии, в городе Пиза.

Проблема в том, что на одну поездку нужно около пяти тысяч евро (стоимость курса, перелёт, проживание, приобретение медикаментов), а таких поездок в год требуется минимум две. Нам как молодой семье с двумя детками очень тяжело собрать такую сумму. Очень просим помощи у всех, кто не равнодушен к нашей проблеме.

Для нас очень важна не только материальная помощь, но и молитвенная поддержка, без которой у нас, родителей, не хватит сил и терпения (так как в себе без Бога мы ничего не имеем), а маленькой Марии это даст возможность на полное выздоровление, так как для Бога нет ничего невозможного.

Искренняя благодарность от всей нашей семьи. Пусть Бог благословит ваши добрые сердца!



**Благотворительные счета открыты в филиале №200 «Беларусбанк»: г.Витебск, ул.Ленина, 10 «Б»; УНП 300229956; МФО 150801635:**

■ **белорусские рубли:** транзитный счёт №3819382103002 на благотворительный счёт №000004 в отделении № 200/110, бессрочный

■ **доллары США:** транзитный счёт №3819382100018 на благотворительный счёт №000014 в отделении № 200/110, бессрочный

■ **евро:** транзитный счёт №3819382100018 на благотворительный счёт №000001 в отделении № 200 / 110, бессрочный

Назначение платежа: Пузанова Наталья Александровна, на лечение дочери Пузановой Марии Ивановны

**WebMoney:**

WMR: R 364305435668 – российские рубли

WMZ: Z 153529429425 – доллары США

WME: E 403647531468 – евро

WMB: B208153368928 – белорусские рубли

Яндекс Деньги: 410011484491912

**Адрес для почтового перевода:**

210016, г. Витебск ул. Подольская, 11 / 15

Пузанова Наталья

# АДВЭНТ ЦІ КАНЕЦ СВЕТУ?

■ кс. Андрэй Кулік

*Чувайце, бо не ведаеце ні дня, ні гадзіны.*
***Мц. 25,13.***

**Не перастае здзіўляць схільнасць людзей да пошуку сенсацый. Здаецца, мы так прызвычаіліся да розных негатыўных з'яў у прыродзе і грамадстве, што яны ўжо не выклікаюць у нас ніякіх эмоцый. Прыродныя катаклізмы (а іх і сапраўды хапала ў апошнія гады), тэхнагенныя аварыі – пабочны эфект, калі так можна сказаць, працы чалавека па ўдасканальванні планеты. Пастаянныя тэрарыстычныя акты на Блізкім Усходзе сталі штодзённасцю нашага жыцця настолькі, што, слухаючы навіны, адрываемся ад іншых спраў, якія робім адначасова, толькі тады, калі пачуем нешта “такое”.**

Адной з такіх навінаў з вызначэннем “суперсенсацыя” было адкрыццё навукоўцамі каляндара племені майя з Паўднёвай Амерыкі. Аналізуючы яго, было выказана меркаванне аб тым, што ў снежні 2012 г. будзе канец свету. Пачуўшы гэтую навіну, можна, канешне ж, адрэагаваць па-рознаму: нехта пацісне плячыма і пойдзе далей, іншы пачне рыхтавацца да нечага накшталт сцэнарыю з амерыканскіх фільмаў катастроф, дзе гінуць усе, акрамя супергероя, а кожны хацеў бы ім быць. А як павінен адрэагаваць хрысціянін?

**Як павінен адрэагаваць хрысціянін на сенсацыю аб канцы свету?**

У хрысціянскай традыцыі тое, што мы называем канцом свету, непасрэдна звязана з паўторным прышэсцем Хрыста на зямлю: *«Тады ўбачаць Сына Чалавечага, які будзе ісці на аблоках з вялікай сілай і ў славе»* (Мк 13,26).

Бэнэдыкт XVI у адной са сваіх прамоў падкрэсліў: «Сын Чалавечы – гэта сам Езус, у якім рэалізаваліся старажытныя біблійныя прароцтвы і які злучае цяперашні час з будучыняй; больш за тое, Ён сапраўдная будучыня, якая пасярод узрушэнняў свету застаецца нерухомай і стабільнай кропкай». Усведамленне таго, што Пан паўторна прыйдзе на зямлю, жыло ў касцёле ад самага пачатку, г.зн. ад моманту ўнебаўшэсця Хрыста.

“І паўторна прыйдзе ў хвале судзіць жывых і памерлых” – вернікі, беручы ўдзел у нядзельнай літургіі, кожны раз прыпамінаюць сабе гэтую праўду, якую ўжо ў IV ст. касцёл лічыў адным з фундаментальных пунктаў нашай веры. Раннехрысціянскія супольнасці жылі перакананнем, што прышэсце Хрыста адбудзецца яшчэ пры жыцці, прынамсі, некаторых з апосталаў. Аднак паступова момант паўторнага прышэсця Хрыста быў “адкладзены” на больш позні часы – у асноўным пад уплывам аналізу кнігі Апакаліпсісу св. Яна.

Спробы акрэсліць канкрэтную дату ніколі не былі плённымі, бо кожнае пакаленне можа знайсці ў Бібліі нейкія ўскосныя аргументы, што будуць прамаўляць за тую ці іншую эпоху. Сёння, гледзячы на канец свету не як на нейкую глабальную катастрофу, пасля якой жыццё на нашай планеце будзе немагчымым, а як на сустрэчу з Богам, можам прыйсці да высновы, што праўда пра канец свету як пра асабістае спатканне чалавека з Богам ёсць і заўсёды будзе актуальнай для кожнага з нас.

**Для хрысціяніна істотнай павінна быць не цікавасць да датаў і сенсацыйных прагнозаў**

У гэтым кантэксце перыяд адвэнту як час чакання прыйсця Збаўцы для супольнасці Касцёла з´яўляецца своеасаблівым дарам ад Пана. З аднаго боку, рыхтуючыся да святаў Божага Нараджэння, мы можам нанова адчуць важнасць моманту ўваходу Уцелаўлёнага Збаўцы ў гісторыю чалавецтва, а таксама ў маю гісторыю. З другога боку, Адвэнт – гэта нагода мацней адчуць блізкасць сустрэчы з Хрыстом – Валадаром і Суддзёю. Для мяне як для хрысціяніна істотнай павінна быць не цікавасць да датаў і сенсацыйных прагнозаў. Нашмат больш важным ёсць мая асабістая здольнасць прыняць слова Хрыста, скіраванае да мяне, як своеасаблівую інструкцыю па падрыхтоўцы да сустрэчы з судом Божым. На фоне зменлівасці свету слова Хрыста застаецца нязменным. І ў кантэксце суадносінаў майго жыцця і Божага слова я і буду рабіць справаздачу Пану.

# КАНЕЦ СВЕТУ

■ Андрэй Русін,
*семінарыст*

**Тэма канца свету зараз вельмі папулярная і ў большасці выпадкаў, на жаль, звязаная са страхам чакання катастрофы, чакання прыйсця антыхрыста і гэтак далей. На маю думку, такі падыход грунтуецца на няправільным поглядзе на свет.**

Калі коратка, то сэнс яго ў тым, што свет разглядаюць як цалкам грахоўную рэчаіснасць, якая павінна быць знішчана. Гэта праўда, што пасля граху першых людзей *«свет ляжыць у зле»* (1 Ян 5,19), але гэта толькі частка праўды. Дакладней, другая частка праўды, а першай часткай з'яўляецца тое, што гэты свет створаны Богам і, як такі, ёсць добры: *«І ўбачыў Бог усё, што зрабіў. І вось, добра вельмі»* (Быц 1,31). І мы не павінны забывацца а гэтую праўду. Трэба паспрабаваць паглядзець навокал, каб убачыць: шмат чаго нагадвае нам пра гэта «добра вельмі».

Ёсць таксама і трэцяя частка праўды – свет адкуплены Езусам Хрыстом: *«Так палюбіў Бог свет, што аддаў Сына Свайго Адзінароднага, каб кожны, хто верыць у Яго, не загінуў, але меў жыццё вечнае. Бо не паслаў Бог Сына Свайго ў свет, каб судзіць свет, але каб праз Яго свет быў збаўлены»*. (Ян 3,16-17). І мы ўжо можам жыць такой радасцю Божага Валадарства, але зло і грэх не даюць нам жыць у гэтай рэчаіснасці ў паўнаце.

**Калі назіраем за сваім сэрцам, то не трэба нам баяцца ніякіх антыхрыстаў**

Таму мы і чакаем другога прыйсця Езуса, які канчаткова пазбавіць нас ад усякага зла. А чакаць гэтага мы мусім з радасцю, а не са страхам, таму што каго мы сапраўды чакаем: Хрыста ці на антыхрыста!? Так, антыхрыст павінен прыйсці перад Хрыстом, але: *«Дзеці! І як вы чулі, што прыйдзе антыхрыст, і цяпер з'явілася шмат антыхрыстаў, дык мы і спазнаём, што апошнім часам!»* (1 Ян 2,18). Значыць, мы ўжо даўно жывём у апошнюю гадзіну. Бітва дабра і зла ідзе даўно. Добра пра гэта сказаў Дастаеўскі: «Дабро са злом змагаецца, а месца бітвы – сэрца чалавека».

Трэба імкнуцца жыць Божаю рэчаіснасцю тут і цяпер і імкнуцца спасцігаць яе ў кожную хвіліну нашага жыцця. Святыя Айцы называюць такі спосаб жыцця “цвярозасцю”, сутнасць яго – у захоўванні свайго сэрца ў чысціні, каб там мог прабываць Бог. Калі мы жывём сакрамантамі, калі назіраем за сваім сэрцам, імкнучыся знаходзіцца ў ім з Богам, то не трэба нам баяцца ніякіх антыхрыстаў: усіх іх мы здольныя распазнаць. А рабіць з канца свету сенсацыю (што цяпер вельмі модна) не трэба, бо: *«Пра дзень той або гадзіну ніхто не ведае, ні анёлы нябесныя, ні Сын, а толькі Айцец»*. (Мк 13,32).



# ЦНОТА ВЕРЫ

*"Хто паверыць – будзе збаўлены"*
**(Мк 16, 16)**

**Набліжаецца новы каляндарны год. А не так даўно распачаўся новы год літургічны. У кастрычніку ў Паўсюдным Касцёле Папа Бэнэдыкт XVI абвясціў Год Веры, які будзе працягвацца да канца гэтага літургічнага года. Усе вернікі пакліканыя да паглыблення сваёй веры і да лепшага пазнання праўды веры ў гэтым часе. Таму, думаю, варта паразважаць над цнотай веры.**

**Źmicier Litvin**

Кожны чалавек шукае штосьці Надпрыроднае, шукае Бога. Размову з Богам называем малітвай. Верай жа, уласна кажучы, лічым нашыя адносіны з Богам і надзею на вечнае жыццё. Аднак кожны можа адчуваць і разумець веру крыху "па-свойму". А ці ведаем мы, што пра веру кажа багасловы і Катэхізіс Касцёла?

### Чым ёсць вера?

Вера – гэта адна з так званых цнотаў боскіх. Цноты – вера, надзея і любоў, таму называюцца боскімі, бо адносяцца да Бога, паходзяць ад Яго і для нас з'яўляюцца дарам. Сама вера звязана з надзеяй і любоўю. Цнота веры даецца чалавеку, каб мог навязаць асабістыя адносіны з Госпадам Богам. Гэтая цнота ажыўляе маральнае жыццё чалавека.

У Катэхізісе чытаем: "Вера з'яўляецца боскай цнотай, дзякуючы якой верым у Бога і ва ўсё тое, што Ён да нас усіх прамовіў і што аб'явіў, а Касцёл у гэта нам кажа верыць, бо Бог ёсць Праўдай."

Без веры няма адносінаў з Богам. Праз веру чалавек з уласнай волі цалкам давяраецца Богу. Яна дадзеная хрысціянам, каб маглі жыць у адзінстве са Святой Тройцай. Прыняцце веры вядзе да прызнання праўдай таго, што Бог аб'явіў для збаўлення людзей. Вера таксама з'яўляецца актам волі і розуму. Божае Аб'яўленне звяртаецца да розуму, які шукае праўды, але, з іншага боку, цнота веры з'яўляецца ласкаю, дарам. Яна робіць нас здольнымі прыняць Божае Аб'яўленне. Вера патрэбная для збаўлення. Жывая вера дзейнічае праз любоў.

### Падзел веры ў тэалогіі

У багасловіі адрозніваюць веру выразную (калі ведаю нейкую догму і ведаю, што Касцёл дае для веры) і невыразную (калі веру, але без дэталяў). У залежнасці ад свядомасці перажывання акт веры дзеліцца на ўсвядомлены ("фармальны" – задзейнічаная воля асобы) і неўсвядомлены ("віртуальны"). У залежнасці ад удзелу святой ласкі адрозніваем веру жывую (калі чалавек жыве ў святой ласцы і прымае Сакраманты) і веру, якая адмірае (без Сакрамантаў).

### Ці вера нас да чагосьці абавязвае?

Кожны вернік мае абавязкі, якія выплываюць з атрыманага дару веры, бо чалавек павінен быць паслухмяным Богу, Які яму аб'яўляецца. Абавязак пазнання Божага Аб'яўлення заключаецца ў тым, што хрысціянін мусіць паглыбляць сваю веру праз чытанне Святога Пісання, Катэхізіса, дакументаў Касцёла і г.д. Абавязак спалучэння рэлігійнасці і маральнасці выплывае з таго, што маральна весці добрае жыццё ёсць цяжка, калі пры гэтым не ўдзельнічаць у набажэнствах і хрысціянскім культце. Абавязак асвячэння палягае на прыняцці Святых Таямніц. Абавязак вызнавання веры – асабістае прыняцце навучання Касцёла і сведчанне сваёй веры словамі і учынкамі. Вернікі Касцёла павінны таксама несці Добрую Навіну іншым людзям. А калі з'яўляюцца сумневы, звязаныя з праўдамі веры, павінны шукаць парады ў святароў ці ў адпаведнай літаратуры. Хрысціяне не мусяць даваць антысведчанні. Таксама сімвалы і знакі, якія носяць ці ўжываюць, не павінны быць антырэлігійнымі ці забабоннымі.

Грахамі хрысціян супраць цноты веры з'яўляюцца свядомыя сумневы, недавер, свядомая нявера, адступніцтва, ерась, раскол.

### Што пра веру кажуць Святыя Апосталы?

Святы Апостал Павел веру параўноўвае з жыццём "новай істоты", "новага чалавека". Вернік павінен адкінуць "старога чалавека", які жыў у грахах, а ў Хрысце станавіцца "новым стварэннем". Атрымаўшы веру, ма́е жыць паводле Духа Святога. Пладамі прыняцця веры ёсць наследаванне Хрыста і жыццё ў Хрысце. Бог праз веру дае апраўданне і праведнасць.

А святы Апостал Якуб падкрэслівае, што вера без добрых учынкаў не прыносіць карысці; вера без учынкаў сама па сабе мёртвая.

Важна разумець, што веданне праўдаў веры ёсць істотным, але не найважнейшым у жыцці вернікаў. Галоўнае Любоў да Бога і людзей. Так, збаўляе Бог, але нельга забываць пра добрыя ўчынкі. Дык давайце ж будзем імкнуцца ў Годзе Веры паглыбляць адносіны з Богам і развіваць у сабе хрысціянскую любоў!

### Малітва дзетак

*Божачка, дай нам надзею на дзень,*
*Будзе ён поўны добрых падзей.*
*Будзем імкнуцца да вяршыняў*
*папасці –*
*Дапамажы нам з іх не ўпасці.*

*Глядзім у акенца: дождж ідзе,*
*Сонейка зззе, птушка пяе.*
*Усе прачынаемся зранку штодня,*
*Усім нам надзей і добрага дня!*

*Ларыса Івашына, Дзяржынск*



# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**16 снежня 2012 г. Лк 3,10-18**

Ян рыхтуе ізраільцянаў на спатканне з Месіяй і кліча да навяртання. Вучыць людзей справядлівасці. Нам таксама трэба аднавіць сваю справядлівасць, асабліва цяпер, у Адвэнце. Тата павінен знайсці час для дзяцей, бо гэтага патрабуе справядлівасць. Муж павінен знайсці чуллівасць да жонкі, бо гэтага патрабуе справядлівасць. Багаты павінен знайсці магчымасць дапамагчы ўбогаму. Прадказаны час прыйсця Езуса – гэта час агню і духу. Гэта час Божага Валадарства, у які мы жывём. Таму мы павінны не толькі клапаціцца, каб каго-небудзь не пакрыўдзіць, але мусім таксама жыць у моцы духу, распаленых агнём Езусавай любові. Гэта новая рэчаіснасць, апірышчам для якой служаць любоў, міласэрнасць і паслухмянасць волі Айца.

*– Ці не крыўджу кагосьці?*
*– Ці справядлівы да людзей?*
*– Ці не збіраюся на несправядлівасць, учыненую мне, адказаць несправядлівасцю ў адносінах да іншых?*
*– Ці даю тым, каму павінен, тое, што павінен?*
*– Ці выконваю тое, што абавязаны як муж, жонка, бацька, маці, работнік?*
*– Ці гарыць ува мне агонь любові?*
*– Ці хачу рабіць дабро?*
*– Ці пытаюся ў Пана Бога пра Яго волю?*
*– Ці разважаю над Божым словам?*
*– Ці жыву паводле яго?*
*– Ці раблю тое, да чаго пакліканы?*
*– Ці дазваляю Божаму Духу весці мяне да вялікіх спраў?*
*– Ці гатовы выконваць вялікія справы, калі на гэта ёсць Божая воля?*
*– Ці, можа, свет, гледзячы на мяне, убачыць, як Бог яго любіць?*
*– Што раблю добрага з таго, да чаго Бог мяне кліча?*

**23 снежня 2012 г. Лк 1,39-45**

Божыя справы збліжаюць паміж сабой дзвюх сваячак – Марыю і Альжбету. Божы Дух працуе ў іх сэрцах і дапамагае ім глядзець на жыццё з адной перспектывы. Іх радасць – справы Пана. У іх, праз іх, для іх і паміж імі. Шчасце – паверыць і даверыцца Божаму слову. Марыя –узор шчаслівага чалавека, які ў штодзённым жыцці захоўвае веру ў Божае слова, бо яно з'яўляецца крыніцай шчасця і пачаткам вечнага жыцця.

*– З кім сябрую і што нас аб'ядноўвае?*
*– Ці маю сяброў па веры?*
*– Ці абараняю такое сяброўства і ці разумею, што яго часта хоча разбурыць злы дух?*
*– Ці заўважаю Божыя справы ў маім сэрцы і ў сэрцы сябра?*
*– Ці радуемся разам Божай моцы?*
*– Ці з'яўляецца мае блізкія таксама маімі сябрамі ў Хрысце?*
*– Ці веру, што вернасць Божаму слову і Божай навуцы – гэта дарога шчасця?*
*– А можа, шукаю шчасця ў іншай навуцы?*
*– Якая гэта навука? Ад каго паходзіць? І да чаго прыводзіць?*
*– Ці падтрымліваю сваіх сяброў на дарозе вернасці Божаму слову?*
*– Ці шукаю сам такой падтрымкі ў сяброў?*
*– Ці будую супольнасць надзеі і даверу Богу?*
*– Ці не адцягваем адно аднаго ад добрага на падставе спачування і разумення?*
*– Ці мы сапраўдныя сябры?*

**30 снежня 2012 г. Лк 2,41-52**

Юзаф і Марыя вяртаюцца са свята дадому, да сваіх штодзённых спраў. Езус застаецца ў святыні. Калі бацькі знаходзяць Яго, то Ён коратка растлумачыў ім сэнс свайго знаходжання ў святыні. Ён прыйшоў для таго, каб быць у справах Айца. Дарогі дванаццацігадовага Езуса іншыя, незразумелыя адразу і цалкам для Юзафа і Марыі. Ён мае сваё пакліканне. Гэта таямніца Божых спраў у сэрцы іншага чалавека, у сэрцах нашых дзяцей і ў сэрцах нашых братоў.

*– Ці няма ўва мне поўнага пыхі пераканання, што ўсё зразумею і ўсім добра пакірую?*
*– Ці дазваляю Богу дзейнічаць у маім сэрцы паводле Яго планаў?*
*– Ці паважаю Божыя справы ў сэрцы іншага чалавека?*
*– Ці адкрыты на тое, што Бог хоча мне сказаць праз іншых?*
*– Ці дазваляю, каб Бог пісаў у сэрцах маіх дзяцей і маіх блізкіх свае планы, якіх я пакуль што не разумею?*
*– Ці адкрыты на тое новае, што Бог учыняе ў сэрцах людзей, якія жывуць побач?*
*– Ці паважаю харызматычныя дары, якімі Бог адарыў маіх сяброў, знаёмых, блізкіх?*
*– Ці спрыяю развіццю гэтых харызматычных дароў?*
*– А можа, з зайздрасцю перашкаджаю і пагарджаю тым добрым, што ёсць у сэрцы іншых?*

**6 студзеня 2012 г. Мц 2,1-12**

Ёсць людзі,якія шукаюць мудрасці і Бога. Яны гатовы шмат зрабіць у гэтай справе. Але ёсць і такія, якія баяцца Бога і Яго волі. Непакояцца, што Бог іх чагосьці пазбавіць. Такім чалавекам з'яўляецца Ірад, які дрыжыць, баючыся страціць свой трон. Ён думае, што Божая воля небяспечная для яго і хоча яе змяніць. Даходзіць аж да забойства. Мудры той, хто пастаянна шукае і гатовы чымсьці падзяліцца. Асабліва, калі сустракаюць "большага" за сябе. Праўдзівая мудрасць вядзе да Бога. Мудрасць гэтага свету – да ідалапаклонства. Чалавек хоча заняць месца Бога.

*– Езус – цэнтр майго жыцця?*
*– Ці з'яўляецца Ён маім Панам і ці шукаю я Яго волі ў сваім жыцці?*
*– А можа, гэта я – пан? Імалюся, і прашу, каб Ён выконваў маю волю і мае "заказы"?*
*– А можа, баюся Божай волі?*
*– Ці веру, што Яго дарога – дарога шчасця?*
*– Ці праз дакладнае выкананне Яго волі з'яўляюся сведкам Бога ў свеце?*
*– Ці выпраменьваю Божае святло?*
*– А можа, праз непаслухмянасць перашкаджаю Богу праявіць сваю прысутнасць ува мне для дабра ўсяго свету?*

Рубрыку вядзе
**кс. Павел Кнурэк**

# РЭЦЭПТЫ НА ВІГІЛІЙНЫ СТОЛ

**Вігілійная вячэра з'яўляецца найбольш ўрачыстай і найбольш сімвалічнай вячэрай года. Нягледзячы на тое, што ўсе стравы на стале павінны быць поснымі, хочацца каб вячэра была смачнай і святочнай. Прапануем вашай увазе некалькі ўлюбёных рэцэптаў на вігілійны стол.**



## Куцця

***(Нагадвае нам пра багацце рая, дзе жылі Адам і Ева)***

- 2 шклянкі ячных або пшанічных круп (цэлае зерне)
- 1,5 шклянкі маку
- 1 шклянка цукру
- 8 лыжак мёду
- 100 г. разынак
- 100 г. лясных арэхаў
- 100 г. цукатаў з цэдры апельсіна
- 1 шклянка смятаны

Старанна прамыць крупы, заліць вадой у рондлю. Давесці да кіпення і варыць на павольным агні 35–40 хвілін, пакуль крупы не набрыняюць.

Насыпаць мак у рондаль, заліць 2 шклянкамі кіпеню, перамяшаць і давесці да кіпення, зняць з агню і астудзіць (2–3 гадзіны). Зліць ваду і перамалоць у кухонным камбайне, дадаць цукар і зноў перамалоць. Змяшаць адвараныя крупы, мак, мёд, разынкі, арэхі, цукаты і смятану. Астудзіць да пакаёвай тэмпературы.




## Рыба, тушаная ў тамаце з гароднінай

***(Рыба абавязкова павінна прысутнічаць на вігілійным стале, бо яна сімвалізуе з'яўленне Хрыста)***

- Хек 1 кг;
- Цыбуля рэпчатая 2 шт;
- Морква 2 шт;
- Таматная паста 2 ст. л.

Кавалкі марской рыбы (хек, мінтай) пасаліць, паперчыць па густу, абваляць у муцэ і абсмажыць з двух бакоў на патэльні да ўтварэння залацістага колеру.

Нарэзаную цыбулю абсмажыць з морквай, затым дадаць таматную пасту і трохі вады, тушыць на працягу 5 хвілін.

У высокую патэльню выкласці рыбу, чаргуючы з пластамі тушанай гародніны. Заліць вадой, каб яна толькі пакрывала рыбу і тушыць да гатоўнасці. За 5-7 хвілін да заканчэння тушэння дадаць перац і лаўровы ліст.



## Вушкі з грыбамі

**Для цеста:** 2 шклянкі мукі, 1,5 шклянкі вады, соль.

**Для начынкі:** грыбы гатовыя парэзаныя, смажаная цыбуля, соль, перац.

Раскачаць крутое цеста як для пельменяў. Выразаць шклянкай кружочкі, начыніць іх грыбным фаршам. Зляпіць кружочкі ў выглядзе пельменяў і канцы склеіць паміж сабой. Адварыць да гатоўнасці.



## Кекс мядовы

- Мука - 2 шклянкі
- Мёд – 120 гр.
- Яйка курынае - 4 шт.
- Цукар - 2 ст. л.
- Крупа манная - 2 ст. л.
- Разрыхляльнік цеста - 1 ч. л.
- Карыца - 0, 5 ч. л.

Аддзяліць бялкі ад жаўткоў. Жаўткі ўзбіць з цукрам, дадаць разагрэты мёд. Муку змяшаць з манкай, разрыхляльнікам і карыцай, замясіць цеста. Асобна ўзбіваем бялкі ва ўстойлівую пену. Выліць бялкі ў цеста і асцярожна змяшаць лыжкай. Дадаць у цеста кавалачкі шакаладу, арэхі, разынкі.

Выліваем цеста ў змазаную алеем форму і выпякаем у загадзя разагрэтай духоўцы пры тэмпературы 180 гр. прыкладна 40-45 мін. Калі кекс занадта пацямнее, накрыць зверху фальгой і выпякаць да гатоўнасці.



## Яблыкі з тварагом і разынкамі

- яблыкі - 200 г
- разынкі (без костачак) - 30 г
- тварог - 60 г
- сметанковае масла - 1 л
- яйка (жаўток) - 1 шт.
- крупа манная - 1 ст. л.
- смятана - 1-2 ст. л.
- цукар - 1 л.
- цукровая пудра

Тварог добра расцерці, змяшаць з маннай крупой, добра прамытай і замочанай разынкамі, 1 ст. л. цукру, жаўтком і растопленным слівачным алеем. З яблыкаў зрэзаць верхавіну, выцягнуць стрыжань, не праразаючы краёў, запоўніць поласць тварагом і запекчы. Падаць іх да стала са смятанай і цукравай пудрай.

***Падрыхтавала Вікторыя Колзун***

*Фота з сайтаў: gorodkerch.com - куцця; vkusnoe.info вушкі з грыбамі; vkusnoe.info – медовый кекс; www.legkogotovit.com – рыба; moi-sad.com яблыкі*

# Віцебск запрашае таленты!




На працягу апошніх гадоў стала добрай традыцыяй у час Божага Нараджэння праводзіць у Віцебску конкурс батлеек. З'яўляючыся формай евангелізацыі, батлейка набліжае ўдзельнікаў і гледачоў да таямніцы нараджэння Збаўцы і дапамагае нам лепш зразумець адну з найважнейшых падзей у гісторыі збаўлення.

**Конкурс дзіцячай самадзейнасці адбудзецца 5 студзеня 2013 года** ў памяшканні душпастырскага цэнтра пры парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску. У рэпертуары ўдзельнікаў могуць быць не толькі батлейкі ў іх традыцыйным выкананні, але і сучасныя інтэрпрэтацыі на тэму Божага Нараджэння, а таксама калядныя спевы, вершы і танцы.

**Праграма мерапрыемства:**

**10.45** – прыезд удзельнікаў

**11.00** – пачатак конкурсной часткі

**13.45** – абед

**14.30** – святочная дыскатэка, падвядзенне вынікаў конкурсу, уручэнне дыпломаў

Пацвердзіць свой удзел у згаданай імпрэзе можна па тэл.: **+375292160286**

***Кс. Андрэй Кулік,** дэкан дэканата Віцебск-Поўдзень*




Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Таццяна Смоткіна
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 9336

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2900 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 09.11.2012 г. у 18.59

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: mail@catholicnews.by
http: catholicnews.by

ISSN 2224-9621



Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ